

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 35 (13567)

24 — 30 жніўня 1992 года

Кошт 3 рублі.


УНУМАРЫ:



ТАТА, ШТО ТАКОЕ ІНФЛЯЦЫЯ?

*Рэпартаж у нумар*

# ПРОЦІСТАЯННЕ

## КПБ

25 жніўня Цэнтральны дзіцячы парк імя М. Горкага нагадваў злёт-сустрэчу ветэранаў Вялікай Айчыннай. На самай жа справе тут адбываўся сход камуністаў. Пры чым тут ветэраны? Проста добрую палову ад колькасці прыйшоўшых сюды складалі людзі, на грудзях у якіх зіхацелі баявыя ўзнагароды. Ды гэта і нядзіўна. Бо многія людзі, уступіўшы ў Камуністычную партыю толькі для таго, каб атрымаць нейкую пасаду, своечасова змянілі афарбоўку і, падстроіўшыся пад так званых дэмакратаў, выкінулі свае партбілеты. Але, як бачым, самыя стойкія камуністы засталіся. І пра гэта яскрава сведчыць мітынг.

Мерапрыемства гэта, прама скажам, прайшло арганізавана. На працягу мітынгу прадаваліся газеты "Народная правда", "Позиция", "День", раздаваліся брашуркі з работамі У.І.Леніна. На парадку дня ў камуністаў было адно пытанне: "Як жыць далей?" Усе жадаючыя маглі выказаць сваю думку наконт гэтага. Гаварылі і пра цяжкасці, якія паўсталі сёння перад народам Беларусі, пра тое, што гораду недададзена прадукцыі на суму каля пяці мільярдаў рублёў, што жыццёвы ўзровень насельніцтва знізіўся ў 5—10 разоў, што зараз у нас прапагандуюцца самыя нізкія абразчыкі культуры Захаду, ад якіх сам Захад даўно адмовіўся... Прагучала ў выступленнях прысутных і такая думка, што камуністы самі (з-за сваёй пасіўнасці) вінаватыя ў тым, што адбываецца. Не абышлі выступаючыя і бэнэфаўцаў, сказаўшы, што мэта БНФ — гэта адраджэнне нацыянальнай буржуазіі. Было ў адрас дэмакратаў кінута яшчэ нямала далёка няўдзячных слоў. Але пра гэта зараз гаварыць не будзем.



Асноўнай задачай для камуністаў рэспублікі сёння, як было сказана на мітынгу, з'яўляецца неабходнасць дабіцца ад Вярхоўнага Савета РБ зняцця забароны на дзейнасць КПБ. Напэўна, так і павінна быць.

Хочацца дадаць, што ў час мітынгу нярэдка раздаваліся скептычныя словы некаторых прысутных: маўляў, дурня вы тут строіце. Ідзіце лепш на Плошчу Незалежнасці, там сапраўды разумныя людзі сабраліся...

## БНФ



А гэтым часам на Плошчы Незалежнасці таксама сабраліся людзі (але тут ужо не было сцягоў з зоркамі, а развяваліся бела-чырвона-белыя палотнішчы). Тут па рашэнню Управы БНФ праходзіў мітынг, прысвечаны гадавіне падаўлення путчу і надання Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі канстытуцыйнай сілы. Тут, канешне, гучалі прамовы іншага характару. Гаварылася, што пад бела-чырвона-белым сцягам утульна ўладкаваліся "былыя", якія сталі "сённяшнімі". Прагучаў і ўсім вядомы выраз У. Караткевіча: маўляў, толькі ў змяі ёсць два языкі, а ў нас павінен быць і будзе адзін.

У некаторых выступленнях таксама не абышлося без палівання брудам камуністычных ідэй і саміх камуністаў. І за гэта, калі казаць па праўдзе, вельмі крыўдна.

Можа ўжо хопіць паказваць кулакі адзін аднаму? Людзі стаміліся. Людзі хочуць жыць.

Франц ЛЯВІЦКІ.
Фота С. БРУШКО.

*Стоп-факт*

### ЗА МЯЖУ — БЕЗ ВІЗЫ (але мы і раней туды так ездзілі)

20 жніўня завяршыла работу сустрэча кіраўнікоў консульскіх службаў дзяржаў Садружнасці. на гэтай сустрэчы парафіраваны пратакол аб бязвізавым перамяшчэнні грамадзян краін-удзельніц СНД па іх тэрыторыях.

Гэта, канешне, вельмі і вельмі добра. Але калі ўспомніць, што і ў ранейшыя часы грамадзяне СССР (цяпер ужо былога) маглі ездзіць ва ўсе куткі Саюза свабодна, то бачна, што нічога звышнатуральнага тут не адбылося. І ўсё ж радуе, што перамог гуманны падыход да гэтае справы.

На сустрэчы кіраўнікоў консульскіх службаў дзяржаў Садружнасці парафіраваны таксама пратаколы аб мэтах і прынцыпах каардынацыі дзеянняў у консульскай вобласці; аб узаемным прызнанні віз дзяржаў – удзельніц СНД.

Мяркуецца, што ўсе тры дакументы будуць прапанаваны для падпісання кіраўнікам урадаў краін Садружнасці на нарадзе ў Бішкеку, якая намечана на верасень.

### ЗНІМЕШ ФОРМУ — СТАНЕШ БІЗНЕСМЕНАМ

Армія Беларусі скарачаецца. Раней планавалася зменшыць войска да 90–95 тысяч, зараз яго колькасць будзе каля 60 тысяч чалавек. Многія афіцэры ламалі галаву над тым, куды падацца, калі ім прыйдзецца развітацца з вайсковай службай? Сёння, здаецца, гэта пытанне пачало пакрысе вырашацца.

І лепшым доказам гэтага стаў наступны факт. У Калодзішчах, што пад Мінскам, адкрыў свае дзверы Цэнтр па перападрыхтоўцы вайскоўцаў, які ў першую чаргу прызначаны для трапіўшых пад скарачэнне афіцэраў. Дарэчы, прыемна адзначыць, што навучанне тут будзе праходзіць бясплатна, а ўсе выдаткі возьме на сябе Міністэрства абароны Беларусі. За час знаходжання ў Цэнтры былыя вайскоўцы засвояць асновы маркетынгу, знешнеэканамічнай дзейнасці, менеджменту і фінансаванне вытворчасці.

Зразумела, што аднаго цэнтра для такой справы будзе малавата. Але Міністэрства абароны Беларусі ўлічыла і гэта. І таму ў хуткім часе плануецца адкрыць яшчэ два цэнтры па перападрыхтоўцы вайскоўцаў – у Магілёве і Мінску. Што ж, справа добрая. Будзем спадзявацца, што з афіцэраў атрымаюцца неблагія бізнесмены.

### МАСТАКІ — ДЗЕЦЯМ (На цукерку можа і хопіць)

Фірма "Вітвіны" і Беларускі дзіцячы фонд арганізавалі выставу-продаж карцін. На выставе прастаўлена каля 140 работ розных аўтараў. У асноўным жа гэта творы беларускіх мастакоў Міхаіла Басалыгі, Валянціна Савіцкага, Аляксандра Пашкевіча і іншых.

Многіх, напэўна, зацікавіць пытанне: а колькі каштуюць карціны? Тут можна сказаць адно – дарагавата (нават пры сённяшніх цэнах). Кошт самай таннай з іх 7 тысяч рублёў, самай дарагой – 148 тысяч.

Застаецца толькі дадаць, што 15 працэнтаў ад выручкі за кожную карціну будуць пералічаны Беларускаму дзіцячаму фонду.

### СПОРТ — ДЛЯ ЎСІХ

21 жніўня ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь камітэт міжнароднай арганізацыі "Спешыал Алімпікс".

Адной з асноўных яго мэт з'яўляецца, як паведамілі ў Міністэрстве юстыцыі, дапамога рабятам са спецыяльных школ для дзяцей з парушаным інтэлектам займацца спортам. Мяркуецца таксама праводзіць рэспубліканскія і міжнародныя спаборніцтвы.

Трэба думаць, што гэты крок будзе сапраўдным падарункам дзяцям, якія пакрыўджаны лёсам.

*Сувязі*

### ПОЛАЦК + ФРЫДРЫХСХАФЕН = ДРУЖБА

Ёсць у старажытнага беларускага Полацка нямецкі горад-пабрацім Фрыдрыхсхафен. Ужо ўвайшло ў добрую традыцыю абменьвацца паміж гэтымі гарадамі дзіцячымі экскурсіямі. Не так даўно група беларускіх школьнікаў наведала Фрыдрыхсхафен (дарэчы, наша газета расказвала пра гэтую падзею). А 25 жніўня завіталі ў Полацк нямецкія дзеці.

Як паведаміў Аляксандр Уладзіміравіч Камароў, першы намеснік старшыні Полацкага гарсавета народных дэпутатаў, у нямецкую групу ўвайшлі 13 чалавек. Дзеці гэтыя прабудуць на Віцебшчыне да трэцяга верасня.

Сумаваць ім не прыходзіцца, таму што праграма, якую падрыхтавалі ім у Полацку, насычана рознымі цікавымі мерапрыемствамі. Тут і сустрэчы з равеснікамі, і розныя спаборніцтвы, і наведванне музеяў Полацка, і экскурсіі ў Наваполацк, Віцебск, і... Адным словам, вельмі цікава.

Жывуць жа нямецкія хлопчыкі і дзяўчынкі ў беларускіх сем'ях, дзе іх прынялі як самых дарагіх гасцей. Карацей кажучы, справу Полацка не шкодзіла б пераняць і іншым гарадам Беларусі.

## Увага! Увага! Увага!




З 1 па 4 кастрычніка 1992 г. у Полацку адбудзецца фестываль дзіцячай творчасці "Восьмы колер вясёлкі", заснавальнікамі і арганізатарамі якога выступілі Полацкі гарадскі Савет народных дэпутатаў. Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Беларусі, газета "Знамя юности", штотыднёвік "Чырвоная змена", культурна-спартыўны комплекс В/А "Шкловалакно".

Задачамі фестывалю з'яўляюцца падтрымка юных талентаў (танцораў, спевакоў, музыкантаў, мастакоў і г.д.), дапамога ім у самавызначэнні, развіццё творчага патэнцыялу дзяцей, практычная падрыхтоўка і выступленні на прафесійнай сцэне, вывучэнне і абмен "граматай мастацтва".

Фестываль праводзіцца ў чатыры этапы: першы дзень пройдзе пад знакам класічнага мастацтва і адбудзецца на лепшай канцэртнай пляцоўцы горада – у канцэртнай зале "Сафійскі сабор"; другі дзень прысвечаны гісторыі і адраджэнню нацыянальнай беларускай культуры – "Фальклорнае свята"; трэці дзень – дзень сучаснага мастацтва – дзіцячае свята "Павінны смяяцца дзеці"; а чацвёрты, заключны дзень фестывалю, – гэта гала-канцэрт з удзелам гасцей.

Для ўдзелу ў фестывальных канцэртах запрошаны вядомыя калектывы і выканаўцы: дзяржаўны эстрадны ансамбль Беларусі "Песняры", група "Верасы", ансамбль народнай музыкі "Свята", тэатр песні Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, Дзмітрый Малікаў, Міхаіл Баярскі, ансамбль "Сябры", арганістка Ксенія Пагарэлая, шоу Бары Алібасава група "На-На", група "Кампазіцыя" і іншыя вядомыя эстрадныя выканаўцы.

Мерапрыемствы ўсіх чатырох дзён будуць трансліравацца па праграмах Беларускага радыё і тэлебачання, асвятляцца ў рэспубліканскай прэсе.

Ад імя аргкамітэта і заснавальнікаў фестываль звяртаецца да ўсіх жадаючых з прапановай выступіць спонсарамі, мецэнатамі, фінансавымі арганізатарамі гэтага свята для дзяцей.

Хто жадае прыняць удзел у фестывалі, аказаць дапамогу, выказаць прапановы і пажаданні, звяртайцеся ў аргкамітэт фестывалю да выканаўчага дырэктара Аляксандра Рагачова па тэлефонах у Полацку: 4-20-24, 4-94-57, 4-41-66.

ФЕСТЫВАЛЬ ШУКАЕ СПОНСАРАЎ!

*Думка ўслых*

## Зноў ахвяры перакананняў?

Сёння, калі на руінах савецкай імперыі нараджаюцца суверэнныя дзяржавы, паўстае пытанне стварэння ўласных Узброеных Сіл. Аднак на якой аснове іх будуюць?

Не так цяжка намаляваць на браме райваенкамата побач з чырвонымі зоркамі трафарэтную "Пагоню", гэта можа нават прыгожа выглядаць, але ж сутнасці не мяняе. Я маю на ўвазе не толькі беларусізацыю нацыянальнага войска (што таксама яшчэ асабліва не бачна), але й самі прынцыпы ўтварэння Узброеных Сіл.

Не сакрэт, што не ўсе грамадзяне "гараць жаданнем" служыць у войску. Некаторы час актыўна абмяркоўвалася пытанне аб неабходнасці стварэння альтэрнатыўнай службы для тых, хто адмаўляецца трымаць у руках зброю на перакананнях сумлення. У краінах Балтыі яшчэ пры Саюзе ад абмеркавання перайшлі ўжо да практычных крокаў. Мы ж, як заўжды, чакаем, пакуль да гэтага ўзроўню паднімецца Расея, каб потым за ёй пралезці ў Еўропу праз акно, хаця дзверы перад намі ніхто не зачыняў.

Тым часам працягваецца практыка крымінальнага прыследавання грамадзян, якія адмовіліся ад зброі і ролі патэнцыяльнага забойцы. Такім чынам, у нас зноў будуць пакутнікі сумлення – кола асоб, якім за парушэнне 18 і 19 артыкулаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, прынятых Генеральнай Асамблеяй ААН яшчэ ў 1948 г., адмоўлена ў магчымасці трымацца сваіх перакананняў. Аднак, што самае дзіўнае, гэта адбываецца пасля абвяшчэння руху да стварэння прававой дзяржавы.

Безумоўна, краіну трэба ахоўваць. Сёння, калі цвяроза глядзець на рэчы, нельга цалкам адмовіцца ад войска. Такія размовы не сур'ёзныя. Па вядомых прычынах нельга ў адзін дзень перавесці ўсе Узброеныя Сілы на добраахвотную кантрактную аснову.

Так, трэба прадугледзець альтэрнатыўную службу. Напэўна хапае аб'ектаў для накіравання працоўнай сілы; муніцыпальныя органы б, напэўна, не адмовіліся. Ва ўсялякім выпадку на такія патрэбы зараз выклікаюць звычайных вайскоўцаў. Мо эканомней было б падмяніць працоўных "пчол" і баявых? Можа меней было б "трутняў"? Аднак, на жаль, дзяржава прымушае сёння сваіх грамадзян ісці на подзвігі веры і парушэнне законаў. З цягам часу, як паказвае гісторыя, грамадства будзе кананізаваць "святых-злачынцаў", толькі ці ёсць у гэтым неабходнасць?

Пашукайма іншых шляхоў да прагрэсу.

Паўлюк БЫКОЎСКІ.

## ПРЫРОДА ПОМСЦІЦЬ ЧАЛАВЕКУ

У той дзень жыхары вёскі Забалацце Мінскага раёна так і не прыйшлі на дапамогу тым, хто даўно тушыў тарфянік. Маўляў, неўзабаве пойдуць дажджы і ўсё сціхне. Але агонь не сціхае, наадварот, вялікае поле, дзе не было дыму, сёння ўжо паранена ў многіх месцах.

Вадзіцель Мікалай Хаміцэвіч, які, дарэчы, працаваў тут не адзін дзень, прывёз нас у эпіцэнтр падзей.

На вадаёме стаяла пажарная помпавая станцыя, ад яе на тры кіламетры была пракладзена магістральная лінія.

— Цяжка з вадою,— гаворыць начальнік аддзела службы, падрыхтоўкі і пажаратушэння ўпраўлення пажарнай аховы УУС выканкама А.У. Дзяруга.— Яе хапае толькі на дзень.— Гэта пытанне вырашыць можна, але дырэктар саўгаса "Волма" С.С.Пачыкоўскі нават не хоча прыслухоўвацца да голасу пажарных. Ні людзей, ні тэхнікі не выдзяляе. Між тым,



меліяратары для яго гаспадаркі асушылі не адну сотню гектараў тарфянікаў. Толькі засявай і збірай ураджай. Але да гэтага рукі не даходзяць. Чаму? Гарыць зямля. Што і калі вырасце на гэтым месцы?

Над узлескам на ўсю моц шугала полымя, трашчаў сухастой. Галоўны спецыяліст УПА УУС Мінскага аблвыканкама маёр унутранай службы Г.М. Красоўскі адразу ацаніў абстаноўку і разам з вайскоўцамі пачаў пракладваць рукаўную лінію. Цяпер заставалася толькі падаць ваду. Па радыёстанцыі Анатоль Мікалаевіч Кацібнікаў перадаў два словы: "Ваду давайце".

Праз хвіліну армейскія ствольшчыкі пайшлі ў атаку на агонь. Для таго, каб патушыць тарфянік, трэба мора вады. Камякі торфу адразу не затухаюць, яны быццам адшукваюць нейкую сілу, каб замацавацца на сухім месцы.

На вачах пусцеюць вадаёмы. Намеснік кіраўніка пажаратушэння УПА УУС Мінскага аблвыканкама, падпалкоўнік унутранай службы А.І. Лявонік папрасіў экскаватар, з дапамогай якога было зроблена паглыбленне канала.

Ужо праз гадзіну вада пайшла па прызначэнню.

Неўзабаве ўзняўся віхор — і дым паваліў на вёску. На разведку пайшоў М.М. Трахімец. Ступіў некалькі крокаў — і яго не стала бачна ў дымавой заслоне. У спякотнае надвор'е чакаць трэба самага горшага.

Сумнае паведамленне прыйшло з Барысаўскага раёна, дзе агонь знішчыў два дамы і чатыры гаспадарчыя пабудовы на хутары Бытса. Цяжка перадаць, якога страху нацярпеліся яго старыя і малыя жыхары, пакуль пажарныя Барысаўскага гарнізона адвялі бяду. Агонь прыйшоў з лесу.

Хто вінаваты ў тым, што гараць лясы, тарфянікі? Безумоўна, чалавек. Гэта ён парушыў нетры. Меліяратары асушылі балоты, пакінулі зямлю без вады. Прырода быццам помсціць чалавеку.

Ф. Сагановіч.
М. Амельчанка (фота).

# СТАРАЯ КАЗКА

**"Что такое белорусы? Это русские. Кто придумал, когда? Белые русские, красные русские, с иние русские. Это всё сделано искусственно. Искусственно, понимаете? Никто не хочет изучать друг ой язык — нормальный, хороший — русский язык. Весь мир изучает! Тут вдруг надумали вводить пятьдесят языков. Это всё от сумасбродства.. Это национальный психоз".**

З выступу У.В. Жырыноўскага ў С.-Пецярбургу 8 ліпеня 1991 г.

*АД РЭДАКЦЫІ.*
*Здаецца, няма ў справе беларускага адраджэння нічога больш важнага, чым нацыянальная свядомасць. Нам, спрактыкаваным на паказчыках і пяцігодках, яе ніяк ні падлічыць, ні ўзважыць, ні змерыць, ні запланаваць. Канешне, ёсць ланцуг лічбаў, які тое-сёе вытлумачвае ў нашым сённяшнім нацыянальным забыцці. 1 млн. 200 тыс. беларусаў вывезена з рэспублікі пад час фашысцкай акупацыі. Колькі іх не вярнулася на Бацькаўшчыну, — зідаць, ужо ніколі не будзьма ведаць! З 1953 па 1960 год так званы аргнабор кінуў 1 млн. 150 тыс. жыхароў Беларусі (у асноўным, вяскоўцаў) асвойваць цаліну... Гэта толькі драбніца з фактаў, прыведзеных на навуковай канферэнцыі ў Маладзечне "Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў". Тых, каго цікавіць гэтая падзея, папярэджваем: сачыце за наступнымі нумарамі "ЧЗ". Сёння ж мы друкуем нататкі аднаго з удзельнікаў гэтай падзеі.*
*Запалітызаваная гісторыя, пазбаўленая аб'ектыўнасці, вышкаліла не адно пакаленне. Гістарычная ж свядомасць напрасткі звязана з нацыянальнай. У мінулым чалавек шукае вытокі свайго быцця. Гісторыя дастаткова доўга была падчаркай ідэалогіі. Годзе.*

У духоўным спусташэнні Беларусі вялікую ролю адыграла пазбаўленне беларускай нацыянальнай гісторыі самастойнасці. За апошнія сто трыццаць год у асвятленні беларускай гісторыі паназапашвалася шмат расійскацэнтрычных міфаў і легенд. Частку іх я разабраў у сваім артыкуле дзесяцігадовай даўнасці "Каб ведалі факты", што не пабачыў свет з-за ўмяшання аддзела ідэалогіі ЦК КПБ і з'явіўся ў друку са спазненнем на пяць год — у жніўні 1987 г. Можна прыгадаць асноўныя сюжэты, якія вандруюць на працягу жыцця некалькіх пакаленняў з дасягальных усім падручнікаў гісторыі Паўночна-Заходняга краю Расіі мінулага стагоддзя ў такія ж абрусіцельскія падручнікі гісторыі БССР. У гістарычных кніжках канца XIX стагоддзя былі аўтары Каяловіч, Бранцаў, Бацюшкаў, Турчыновіч, Харламповіч, Жуковіч, а ў цяперашніх — рэдактары і аўтары Л.Абэцэдарскі, Э.Загарульскі з аднымі і тымі ж сааўтарамі. Нешматлікія ж, хай сабе і не заўсёды роўныя па якасці, падручнікі, напісаныя з беларускага пункту гледжання, — агульныя курсы нацыянальнай гісторыі У.Ластоўскага, Ус.Ігнатоўскага, Я.Найдзюка, Я.Станкевіча, І.Касяка і некаторых іншых аўтараў заставаліся недасягальнымі для чытачоў. Праўда, нядаўна быў перавыдадзены выдавецтвам "Беларусь" дапаможнік Ус.Ігнатоўскага, таксама рыхтуецца перавыданне і гісторыі У.Ластоўскага — абодва з цікавымі прадмовамі Анатоля Грыцкевіча, у якіх гаворыцца і пра станоўчыя якасці кніг і іхнія недахопы з сучаснага пункту погляду. Дарэчы, у Эстоніі быў перавыдадзены ў 1990 г. "Кароткі агляд гісторыі Беларусі" П.Рагача. Астатнія ж падручнікі, як і большасць шматлікіх гістарычных выданняў, не залежных ад імперскіх поглядаў на Беларусь, так і ляжаць у аддзяленнях "специального хранения" дзяржаўных бібліятэк. Адтуль іх выдаюць для чытання па спецыяльных і жорстка абмежаваных правілах Камітэту Дзяржаўнай Бяспекі.

Адзін з вышэйпамянёных міфаў тычыцца асвятлення славяна-балцкіх узаемаадносін на сучаснай тэрыторыі Беларусі пад час яе засялення славянамі. Пры азнаямленні з доследамі беларускіх і рускіх археолагаў, антраполагаў, мовазнаўцаў апошніх дзесяцігоддзяў, разумееш, што на цяперашняй беларускай зямлі яшчэ да таго, як склаўся беларускі этнас, жылі балцкія плямёны, блізкія па мове да сучасных літоўцаў і латышоў. Потым зямля гэтая была паступова заселена славянскімі продкамі беларусаў, якія змяшаліся з папярэднікамі па пражыванню на гэтай тэрыторыі.

У падручніках, укладзеных па старых рэцэптах, удзел балцкага субстрату (гэта значыць, этнасу, што жыў папярэдне), у стварэнні беларускага народа адмаўляецца. Нібыта славяне прыйшлі на пустэчу між Дняпром, Дзвіною і Нёманам. Гэта значыць, што яны (і толькі яны!) павінны быць яе валадарамі па праву першазасялення.

Вы памыліцеся, калі падумаеце: гэта сцвярджаецца на карысць беларускай ідэі. Не, гэта робіцца на карысць вялікадзяржаўнай ідэі. Згодна з апошняй, беларусы — тыя ж расейцы, хай сабе "маленькія", але ўсё ж "нашы", а балты — "чужыя". Абаронцам такой ідэі хочацца, пэўна, расцягнуць абсяг расейскага ўладарання як мага шырэй, ды яшчэ даказаць ягоную правамоцнасць.

Такое ж жаданне кіруе і тымі, хто сцвярджае аб адзінстве старажытнага ўсходнеславянскага этнасу, адзінай мове і адзінай дзяржаве ад Балтыйскага да Чорнага мора. Адзінства гэтай дзяржавы — Кіеўскай Русі — было недаўгавечным, бо існавала яна пры двух князях семдзесят год (з перапынкамі). А да і пасля таго на ўсёй гэтай тэрыторыі месціліся самастойныя ўдзельныя княствы, у тым ліку і Полацкае — аснова Беларусі.

Што да адзінай мовы, то яшчэ прафесар Чарнавіцкага універсітэта, а потым Украінскага Вольнага Інстытута ў Празе, акадэмік Усеўкраінскай Акадэміі навук Сцяпан Смаль-Стоцкі (1859-1939) даволі доказна абвяргаў правамоцнасць ідэі праўсходнеславянскай мовы. Ён даводзіў, што тры ўсходнеславянскія мовы — руская, украінская і беларуская — узніклі непасрэдна з праславянскай, а не з праўсходнеславянскай мовы ўсяе Кіеўскай Русі.

Ленінградскі гісторык В.Б.Вілінхабаў яшчэ ў 1960-я гады выказаў гіпотэзу, згодна з якой розныя плямёны Старажытнай Русі мелі мала агульнага, бо іх, як пісаў Багдановіч, "душылі абшары лясоў". Дый шляхі між тэрыторыямі рассялення розных плямёнаў былі дрэннымі. У гэтых плямёнаў было мала гэапалітычных сувязей, падобна таму, як гэта захавалася ў жыхароў Новай Гвінеі. На гэтай вялізнай выспе жыве каля сямісот асобных этнасаў. Мовы, якімі гавораць гэтыя народы, размяркоўваюцца між некалькімі не роднаснымі між сабою надсем'ямі — трансновагвінейскай, сепік-раму, тарычэлы, заходнепапуаскай і некалькімі іншымі.

А калі не было адзінай старажытнарускай мовы, дык што тады было адзіным у раўнінах Усходняй Еўропы? Ад Балтыкі да Прычарнамор'я? Велікакняжацкая ўлада? Дык яна існавала некалькі дзесяткаў гадоў. Этнас? Але там існавалі розныя плямёны, пералічаныя ў асноўнай крыніцы таго часу "Повести временных лет". Хрысціянскае веравызнанне? Яно ўводзілася ў розных частках Усходняй Славяншчыны і прыйшло з Візантыі. Зараз нават можна прачытаць у асобных артыкулах, што там уводзілася грэкаправаслаўная рэлігія, якая паступова выцясняла паганства.

Яшчэ наконт сцвярджэння таго, што насельніцтва тагачаснай Русі было аднальтным этнасам, з якога вылучыліся тры — рускі, украінскі і беларускі. Кіеўскае княства з'яўлялася не адзінай вялікай дзяржавай сярэднявечча. Падобныя эфемерныя дзяржавы ствараліся ў Еўропе і аб'ядноўвалі ў сабе і блізкія па мове і непадобныя адзін да аднаго этнасы. Вось, напрыклад, раней за Кіеўскае княства ў VIII-IX ст.ст. стварылася імперыя Карла Вялікага. Яна распалася на Францыю, Германію і між імі — дзяржаву Лотара. Часткі дзяржавы Лотара трапілі да памянёных краін, а таксама далі пачатак сучасным Нідэрландам, Бельгіі, Люксембургу, Швейцарыі, Аўстрыі.

У сучасным Еўрапейскім звязе наўрад ці прыпамінаюць, што этнасы імперыі Карла Вялікага адносяцца адзін да аднаго як старэйшыя і малодшыя браты. А вось Кіеўскую Русь, якая была часовым кангламератам рознаплямённых і разнамоўных зямель, трактуюць як калыску старэйшага і малодшых, мацнейшага і слабейшых — вялікага і меншых этнасаў. Мінулае "мадэрнізуецца", праецыруецца на далейшыя дзяржавы — Маскоўскае вялікае княства, Рускае царства, Расійскую імперыю і, урэшце, Савецкі Саюз.

Адпаведна беларуска-літоўскім летапісам аб'яднанне беларускіх і літоўскіх зямель праходзіла па згодзе між валадарамі гэтых тэрыторый. Але расейскія гісторыкі сцвярджалі, нібыта "чужыя" валадары захапілі гвалтам "нашы", як яны пісалі, "рускія" землі. Пазней гэта стала грунтам для беспадстаўных прэтэнзій сапраўды чужых беларускаму насельніцтву вялікіх князёў маскоўскіх і іншых імперскіх нашчадкаў на "вызваленне малодшых братоў".

З тою ж самаю мэтаю былі створаны міфы аб "шкодным" уплыве заходнееўрапейскай культуры часоў Рэнесанса і гуманізму, каталіцызму, Рэфармацыі на культуру Беларусі, аб уяўнай забароне беларускай мовы пастановай сейма 1696 года. Аднак у гэтым дакуменце пасля цытуемых аўтарамі вялікадзяржаўнага напрамку слоў: "Цяпер усе рашэнні павінны складацца на польскай мове" далей гаворыцца: "Усе папярэднія акты, запісы, рашэнні і паказанні захоўваюць сваю моц". А ні ў гэтай пастанове, а ні ў іншых няма ніводнага слова на забарону беларускай мовы.

Часта абвінавачваюць беларускую шляхту — тагачасную духоўную эліту — у здрадзе свайму народу ў часы Рэчы Паспалітай. Так, здабываючы адукацыю, беларускія магнаты і шляхта, частка гараджан часам адыходзілі ад роднай мовы, але, па-першае, далёка не заўсёды, а па-другое, ніколі не забываліся на сваё мясцовае, беларускае паходжанне. Доказаў апошняга ў першакрыніцах хапае.

Ці не з шэрагу шляхты выйшлі першыя апісальнікі побыту Беларусі ў мастацкай літаратуры на польскай мове — Ян Баршчэўскі, Ян Ходзька, Ігнацы Ходзька, Хенрык Ржавускі і на рускай мове — Фадзей Булгарын; першыя беларускія літаратары новай эпохі — В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, А. Абуховіч, Я. Лучына, К. Каганец, Янка Купала і іншыя? Раней была такая мода сярод нашай шляхты — знешне апалячвацца. Але гэта далёка не заўсёды было стратай ідэнтычнасці з асяроддзем. Калі мець на ўвазе мову, то ў даўнія часы яна не была паказчыкам этнічнай самасвядомасці. Шмат хто з першых беларускіх асветнікаў ахвяраваў уласны дабрабыт дзеля народа. Ці ж гэта не было кампенсацыяй за пэўную пасіўнасць шляхты ў папярэднія дзесяцігоддзі? І ўвогуле, мяркую, што трэба лічыцца з выслоўем А. Камю: "Усялякае грамадства трымаецца на арыстакратыі, бо сутнасцю арыстакратызму з'яўляецца патрабавальнасць да самога сябе, а без такой патрабавальнасці кожнае грамадства гіне".

Я згодзен з кіраўніком Украінскага даследчага інстытута ў Гарвардскім універсітэце Грыгор'ем Грабовічам, з якім я там сустракаўся на пачатку вясны 1991 года, калі той сцвярджаў, што для паўнацэннага дзяржаўнага існавання недастаткова мець свае грошы і пасольствы — патрэбная яшчэ інтэлектуальная традыцыя, пэўныя стандарты інтэлектуальнага жыцця. Ён меў на ўвазе ў нашай гутарцы культурную эліту. Нельга было не згадзіцца, калі Г. Грабовіч удакладняў, што паўнацэннасць нацыі звязана са з'яўленнем у ёй духоўнай эліты.

Што казаць пра маральнае апраўданне ў савецкіх беларускіх гістарычных працах спусташальных паходаў на Беларусь і па Беларусі Іванам Грозным, Аляксеем Міхайлавічам Цішэйшым (якая іронія ў адносінах да гэтага празвання, калі ўспомніш, што рабілі ягоныя стральцы на Беларусі), Пятром Аляксеевічам, Аннай Іванаўнай, Кацярынай II? Гэтыя паходы адбываліся з рэгулярнасцю са стагоддзя ў стагоддзе. У стандартных русацэнтрычных падручніках беларускі чытач знойдзе ўхвалу гэтых акцый, нібыта памянёныя цары вызвалялі бедных беларусаў ад акаталічвання і апалячвання, ад нацыянальнага і рэлігійнага ўціску. Беларусы ж трацілі ў выніку гэтых паходаў і маёмасць, і родных, і жыццё, а тыя, каму пашчасціла застацца ў жывых, зганяліся як быдла ў палон і адпраўляліся нявольнікамі ў Расію. Там жа іх прадавалі як жывы тавар на Каўказ і ў Іран.

І пасля гэтага варта яшчэ афіцыйнай гістарыяграфіі пашыраць ілжывы міф, згодна з якім беларусы ўвесь час імкнуліся з-пад рукі свайго легітымнага спадара — вялікага князя Беларуска-Літоўскага валадарства трапіць у падданства маскоўскага вялікага князя (потым рускага цара ці пазней імператара)? Што яны ўсе былі ў душы здраднікамі дзяржавы, у якой жылі?

Афіцыйныя гісторыкі нават сцвярджалі, нібыта царызм не хацеў дзяліць Рэч Паспалітую, але яго прымусіў рабіць гэта прускі кароль Фрыдрых II. А як было на самай справе?

Сучасны даследчык гісторыі дыпламатыі Г. Кесельмеер знайшоў у Архіве знешняй палітыкі Расіі канверт з рэзалюцыяй Кацярыны II "Секретный план, преподнесенный от графа Чернышева на С.К.К.П., окроме меня никому не разпечатывать". Гісторык распячатаў канверт і знайшоў там план падзелу Рэчы Паспалітай, складзены віцэ-прэзідэнтам Ваеннай калегіі Расіі Захарам Рыгоравічам Чарнышовым. Гэты план быў старанна засакрэчаным. Расшыфроўка скарачэння "С.К.К.П." такая: "на случай кончины короля польского", гэта значыць Аўгуста III (1733—1763). На канверце была яшчэ памета: "Сей пакет в Высочайшем присутствии распечатан и вложенный план читан был на конференции держанной у двора в 6 октября 1763 года". Якраз напярэдадні гэтай даты памёр Аўгуст III. З гэтага вынікае, што ніхто не падштурхоўваў і не прымушаў расійскую ўладу да падзелаў Рэчы Паспалітай.

Вось толькі частка міфаў, ствараемых афіцыйнай гісторыяй, на якія можна звярнуць увагу. Зусім сціплая частка...

Валянцін Грыцкевіч,
гісторык.
Санкт-Пецярбург.

# ЦІ ПАТРЭБНЫ БЕЛАРУСУ ПЯТЫ АКІЯН

*Старыя сямейныя пары разводзяцца рэдка, але... едка. Тым больш калі сям'я палігамная, як, напрыклад, Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. За семдзесят гадоў сумеснага жыцця ў прасторнай, але бруднаватай "камуналцы" СССР дамачадцы парадкам сапсавалі сабе характары, узмацніўшы гэта прыпадкамі склерозу, клептаманіі і празмернай падазронасці. Неяк падзяліўшы паміж сабой малюсенькую куханьку, былыя сваякі, паступова прыходзячы ў прытомнасць пасля працэдуры скасавання шлюбу, раптам пачалі ўспамінаць: "Дазвольце, Даніла Тарасавіч, куды гэта падзеўся мой паўвостраў, зялёны такі?" — "Як жа, Лукер'я Іванаўна, вось ён, тутака. Толькі вы мне яго надоечы самі бязвыплатна падарылі"... Дзеляць армію, флот, даўгі, крэдыты, членства ў ФІФА і многае іншае. Працэдура непрыемная, падобная на шматгалосы шум на лесвічнай пляцоўцы. Але калі прыняць да ўвагі факт скасавання шлюбу, то сумная неабходнасць гэтай працэдуры становіцца ўсё ж відавочнай. Спадзеючыся, што ўслед за арміяй і флотам справа неадкладна дойдзе да вялізнага "рубляёмкага" комплексу касмічнай тэхнікі, Аляксандр Кішкін сустрэўся з намеснікам дырэктара Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН Беларусі Барысам Берагавым, які прадстаўляе інтарэсы рэспублікі ў Міждзяржаўным савеце па космасу. Вядома, што рэпутацыя СССР, як адной з вядучых "спейс-дзяржаў", з'явілася вынікам намаганняў не толькі спецыялістаў КБ Сяргея Каралёва. Як усялякую буйную вытворчасць, касмічны комплекс "кармілі" шматлікія прадпрыемствы і навуковыя ўстановы. На космас працавалі многія рэспублікі, у тым ліку і Беларусь... Вядома, разумныя людзі, якімі традыцыйна славілася гэта галіна, не стануць распілоўваць на часткі спадарожнікі і абсталяванне. Тым не менш, якім чынам кожная з рэспублік (і Беларусь у першую чаргу) змогуць атрымаць назад або сумесна выкарыстоўваць свой "пай", які ўклалі калісьці ў праграмы касмічных даследаванняў?*

— Пачну, бадай-што, з галоўнага, — гаворыць Барыс Берагаў. — Інфраструктура, якая забяспечвае існаванне касмічнай сістэмы, размяркоўваецца па наступнаму прынцыпу: усё, што знаходзіцца на тэрыторыі той ці іншай рэспублікі, з'яўляецца яе ўласнасцю. Байканур у Казахстане — уласнасць Казахстана. Пункты сачэння на Украіне — уласнасць Украіны. І гэтак далей. Што датычыць абслуговага персаналу, то ён застанецца ранейшым. Звольніць жа спецыялістаў, якія працавалі на аб'ектах ужо не адзін год, было б раўназначна краху ўсяго комплексу. Нягледзячы на тое, што ёсць падрабязная тэхнічная дакументацыя, толькі цяперашняя касмічная "абслуга" валодае інфармацыяй пра непазбежныя капрызы сістэм. Дастаткова толькі ўявіць сабе трохметровую ў папярочніку шахту на Байкануры, якая начынена правадамі і кабелямі, каб пераканацца ў тым, што гэта тэхніка "корміцца" толькі з "родных" рук. Усе гэтыя палажэнні, дарэчы, замацаваны ў "Пагадненні аб парадку ўтрымання і выкарыстання аб'ектаў інфраструктуры ў інтарэсах выканання касмічных праграм", падпісаным у Ташкенце ў сярэдзіне мая кіраўнікамі дзесяці дзяржаў былога Саюза.

**– Як будзе адбывацца фінансаванне комплексу?**

— У нейкай меры мы вырашылі зрабіць так, як Еўрапейскае касмічнае агенцтва, якое аб'ядноўвае трынаццаць краін. Сума фінансавання для кожнага члена агенцтва вызначаецца велічынёю неабходных на ажыццяўленне касмічных праграм сродкаў, якая дзеліцца прапарцыянальна нацыянальнаму валавому прадукту кожнай з краін-удзельніц. У нашым выпадку плануецца падлічыць удзельную вагу кожнай з дзесяці дзяржаў па розных відах дзейнасці, па тэрыторыі, насельніцтву і іншых паказчыках. У працэнтных адносінах доля тэрыторыі Беларусі складае прыблізна 0,95 працэнта, насельніцтва — 3,5 працэнта, доля адчужэння зямель пад пуск касмічных апаратаў і іх прызямленне, "мёртвыя зоны", куды падаюць адпрацаваныя часткі сістэм, — гэты паказчык у нас застаецца "нулявым". Доля навуковага патэнцыялу — 5 працэнтаў, доля ВНП — 4 працэнты. Гэтыя лічбы не з'яўляюцца канчатковымі. Мы ўжо ў чацвёрты або пяты раз удакладняем гэтыя паказчыкі і прынцыпы вызначэння долі кожнага з удзельнікаў у фінансаванні касмічнай дзейнасці.

**– Якія рэальныя тэрміны пачатку фінансавання?**

— Думаю, гэта пачнецца ўжо ў гэтым годзе. Але ўступны ўзнос — гэта яшчэ не ўсё. Існуюць жа і нацыянальныя праграмы. Беларусь з Украінай, да прыкладу, маглі б выканаць запуск экалагічнага спадарожніка для праведзення маніторынга асяроддзя пражывання і атрымання інфармацыі практычна з ўсяго "шарыка". Нашы дзяржавы ў такім выпадку дагаворваюцца аб распрацоўцы эксклюзіўнай праграмы. Яе рэалізацыя забяспечваецца структурай уступных узносаў і мэтанакіраванымі дадатковымі ўкладаннямі сродкаў "аўтараў" праграмы. Мы самі праектуем спадарожнік, апаратуру, пункт прыёму інфармацыі або адлічваем грошы за яго арэнду, ажыццяўляем запуск і пачынаем камерцыйную эксплуатацыю апарата. Інфармацыю, неабходную для нас з Украінай, мы атрымліваем бясплатна. Калі ж у гэтай інфармацыі раптам зацікавіцца Казахстан або якая іншая рэспубліка, — яны будуць мець магчымасць купіць яе ў нас.

Нам сёння неабходна прымусіць касмічную інфраструктуру даваць значны прыбытак. Гэта задача не толькі фінансавага, але і псіхалагічнага плана. Людзі не вераць або проста не ведаюць аб тым, што на "пыльных сцяжынках далёкіх планет" можна заваяваць не толькі прэстыж Калумба, але і (як гэта і было з усімі калумбамі) атрымаць элементарную выгаду. Сёння нават на самых высокіх кіраўніцкіх узроўнях мазгі бываюць "зашораны" скептыцызмам у адносінах да перспектывы асваення космасу. Між іншым, касмічная тэхналогія ўрываецца (дакладней, ужо ўварвалася) амаль ва ўсе галіны чалавечай дзейнасці і становіцца проста незаменнай. Зараз мы гэтага, магчыма, не заўважаем, але варта "спатыкнуцца", адстаць ад тэмпаў развіцця сусветнай касманаўтыкі, як многае адразу стане зразумелым. Узяць хоць бы сістэму "Метэор", за ўтрыманне якой Беларусь сёння не плаціць ні капейкі: на абывацельскім узроўні ўспрымаемае ўвасабленне "Метэора" — гэта маленькі слупок інфармацыі аб прагнозе надвор'я на апошніх палосах газет. Аднак без доступу да гэтай інфармацыі стануць немагчымымі бяспечныя паветраныя зносіны або нават існаванне паветранага транспарту наогул. Адсюль вам іншае ўспрымаемае ўвасабленне сістэмы "Метэор" — бяспека вашых родных і блізкіх.

**– Гэта, безумоўна, цікава. Але Вы гаварылі пра прыбыткі. Як магчыма дабіцца ў касмічнай галіне хуткага і эфектыўнага абароту капіталу?**

— Неабходна проста ўмець лічыць, а не рабіць упор толькі на дэвіз значкістаў ГПА "Хутчэй, вышэй, мацней". Вось, да прыкладу, адна з праграм па сумеснаму даследаванню і выкарыстанню космасу: касмічная сувязь і тэлебачанне. Нам важна вызначыць, што, дапусцім, у гэтым годзе рэспубліцы неабходна забяспечыць пяцьсот тысяч тэлефонных нумароў і гэта можна зрабіць з дапамогай канала спадарожнікавай сувязі. Мы лічым, колькі гэта будзе каштаваць і заяўляем удзел рэспублікі ў праграме менавіта на гэтую суму. Вось вам і прамая выгада плюс тое, што ў падаткаплацельшчыка з'явілася магчымасць добра ўявіць сабе, куды ідуць яго грошы.

**– Вы не маглі б назваць астатнія праграмы, па якіх мяркуецца фінансаваць сумесную дзейнасць дзяржаў у рамках пагаднення?**

— Гэта праграмы па метэаралогіі, па дыстанцыйнаму зандзіраванню, па пілатуемых палётах і міжнароднаму супрацоўніцтву на іх аснове. У аспекце пілатуемага палёту лягчэй і больш эфектыўна вырашаюцца задачы амаль усіх астатніх праграм, што, я лічу, робіць неабходным удзел рэспублікі ў гэтых праектах. Нягледзячы на тое, што палёт "Бурана" ў аўтаматычным рэжыме з'яўляецца нашым своеасаблівым рэкордам (амерыканцы да гэтага часу не ў стане пераадолець паўтараметровы рубеж пры пасадцы ў аўтаматычным рэжыме), тым не менш рэкорд складаецца яшчэ ў небывалай марнатраўнасці: калі б "Буран" пілатаваўся касманаўтамі, то аб'ём інфармацыі, сабранай пры палёце, узрос бы ў "эннай" ступені.

Ёсць праграма па навігацыі і забеспячэнню выратавання ў экстрэмальных сітуацыях. Акрамя свайго непасрэднага прызначэння (бо не выключана магчымасць таго, што рэспубліка "адвае" свой флот), міжнародная сістэма "Тапаз" дапамагае і ў многіх іншых выпадках. Міністэрства шляхоў зносін, калі не памыляюся, карысталася паслугамі "Тапаза", калі праводзіла аперацыю па пошуку таварных вагонаў: касмічная навігацыя дае магчымасць вызначыць месцазнаходжанне аб'екта з дакладнасцю да метра. На Захадзе гэту сістэму часта выкарыстоўваюць для кантролю за вадзіцелямі-"дальнабойшчыкамі", каб вызначыць, хто замест работы папівае піва ў пабе.

Далей — касмічная тэхналогія і медыцына. Пры нашай магутнейшай электроннай базе (адзін "Інтэграл" чаго каштуе) не займацца асабліва чыстымі матэрыяламі было б верхам марнатраўства. Біялагічна чыстыя рэчывы даюць новую якасць не толькі ў матэрыялазнаўстве, але і ў медыцыне (некаторыя віды лекаў могуць быць атрыманы толькі ва ўмовах космасу).

Праграма па геадэзіі і картаграфіі таксама неабходна для рэспублікі. Акрамя класічных удакладненняў разнастайных карт, выканання самалётаваджэння праз спадарожнікавыя навігацыйныя сістэмы, мы маглі б займацца складаннем і продажам лічбавых і тапаграфічных карт для іншых дзяржаў. Якніяк у Беларусі знаходзяцца вельмі магутныя сістэмы па апрацоўцы аэрафотаінфармацыі.

Здаецца, я не назваў толькі праграмы па абараназдольнасці і калектыўнай бяспецы, а таксама па стварэнню асновы для развіцця навукова-тэхнічнага патэнцыялу... Праграмы, вядома, дарагія. Але іх будуць фінансаваць і іншыя рэспублікі. Нам важна хоць крыху ўдзельнічаць у гэтых праектах, і тады мы будзем мець доступ да ўсіх вынікаў даследаванняў.

**– Як дзяржавы ўсё ж прыйшлі да неабходнасці аб'яднання намаганняў у даследаванні і выкарыстанні касмічнай прасторы?**

— На гэту неабходнасць паказвала некалькі трывожных фактаў. Бядотнае становішча Байканура, у прыватнасці. Казахстан нацыяналізаваў яго яшчэ да падпісання пагаднення. Газеты, як і шырокая публіка, актыўна абмяркоўвалі магчымасць таго, што ўсіх цяперашніх спецыялістаў Назарбаеў адтуль прагоніць і паставіць новых. Працэс гэты так і не пачаўся, але псіхалагічная абстаноўка на касмадроме вельмі абвастрылася. Паводле слоў кіраўніцтва Байканура, ад афіцэраў, якія абслугоўвалі гэты унікальны комплекс, цэлымі пачкамі сталі паступаць рапарты з патрабаваннем вяртання ў Расію.

Другое. На касмічную тэхніку раней працавала ўся дзяржава. Сёння на тым жа Байкануры, каб замяніць падземныя трубы (ва ўмовах саланчаковых зямель гэта неабходна рабіць кожныя два гады), неабходна было пускаць у бартэрны абарот цягачы...

**– Дарэчы, ці дапускае "Пагадненне..." якія-небудзь ільготы для забеспячэння аб'ектаў касмічнай інфраструктуры?**

— Пагадненне абавязвае дзяржавы аказваць ільготы для матэрыяльнага забеспячэння задач, звязаных з выкарыстаннем космасу. Але наўрад ці гэта дасць якія-небудзь рэальныя вынікі. Раней пры слове "космас" любое прадпрыемства гатова было дапамагчы: калі ласка, дайце што-небудзь зрабіць для космасу. Цяпер падыход стаў іншым, што вельмі заканамерна. Людзі хочуць ведаць, што яны атрымаюць за гэта... Генеральны дырэктар Расійскага касмічнага агенцтва Юрый Копцеў расказаў цікавую гісторыю аб тым, як ён "ваяваў" з ВС Расіі, спрабуючы "прабіць" фінансаванне некалькіх касмічных праграм. Спачатку дэпутаты абураліся, што яны, маўляў, укладвалі, укладвалі ў космас і ўсё дарэмна, а зараз краіна зусім жабрацкая засталася. Тады Копцеў прывёў наступныя лічбы (звесткі па 1989 году): на ўсе касмічныя праграмы ўрад патраціў 6,9 мільярда рублёў. Страты ўраджаю склалі 20 млрд.рублёў, "незавершанасць" у будаўніцтве 180,9 млрд.рублёў. Сувымернай з затратамі на космас была толькі сума кошту купленага, але не ўстаноўленага імпартнага абсталявання, якая склала таксама каля 5,8 мільярда рублёў...

**– Добра. У нас ёсць навуковы і тэхнічны патэнцыял, мы вызначылі, што космас можа стаць прыбытковай справай. Больш таго – у нас ужо ёсць сёння залежы каштоўнай і дагэтуль незапатрабаванай інфармацыі. Што ў такім выпадку перашкаджае нам атрымаць гэты прыбытак сёння?**

— Неабходна арганізавацца. У рэспубліцы сёння ніхто не ведае ўсіх работ, якія вядуцца па космасу. Адсюль разрозненасць і поўная неразбярыха. Гэта хутчэй нават не віна, а бяда нашых кіраўнікоў. Работы вяліся непасрэдна з Міністэрствам агульнага машынабудавання і іншымі цэнтральнымі ведамствамі. І ад работ Беларусі, трэба сказаць, залежыць шмат ключавых пазіцый у касманаўтыцы, без якіх не змогуць абысціся Расія і іншыя рэспублікі. Гэта і ўстаноўкі па дыстанцыйнаму зандзіраванню зямной паверхні, і матэрыялазнаўства, і сістэмы цеплаахоўы, сістэма аўтаматычнага праектавання і многае-многае іншае.

**P.S. Пакуль рыхтаваўся матэрыял, стала вядома аб выніках пасяджэння Камісіі Саўміна па пытаннях навукова-тэхнічнага прагрэсу, дзе было прынята рашэнне аб стварэнні Рэспубліканскага савета па космасу (а ў перспектыве і Беларускага касмічнага агенцтва). Старшынёй РСК прызначаны Барыс Берагаў.**



# ЗАМЕЖНІКІ Ў СНД





Для замежных студэнтаў наша краіна стала адкрыццём. "Мы ехалі, каб дапамагчы вам будаваць новае жыццё", — сур'ёзна заявілі маладыя людзі. "Праўда, у вас намнога лепш, чым мы думалі", — сказаў святар Донкаміда. "Галоўнае, дзеля чаго мы тут, — пазнаёміцца з беларускім народам, яго культурай і гісторыяй", — дадалі нашы госці.

Група замежных студэнтаў знаходзілася на працягу амаль што месяца ў Магілёве, дзе ўдзельнічала ў рэстаўрацыі касцёла святога Станіслава. Прыезд маладых людзей з розных краін свету быў арганізаваны Беларускай асацыяцыяй міжнароднай працы моладзі. Сутнасць гэтай акцыі заключаецца ў тым, што работы выконваюцца бясплатна. У сваю чаргу беларусы такім жа чынам працуюць за мяжой.

Частка студэнтаў займалася складанай, працаёмкай справай — аднаўленнем фрэсак. Касцёл святога Станіслава неаднаразова рамантаваўся, у выніку чаго восемдзесят працэнтаў фрэсак было схавана пад слоем алею, а астатнія наогул перамалёваны. Рабяты саскрабалі нажамі, пінцэтамі пласты фарбы. За чатыры гадзіны працы можна ачысціць плошчу прыблізна пяцьдзесят на пяцьдзесят сантыметраў.

"Чарнавыя" работы выконвала група каталіцкай моладзі з Бельгійскага універсітэта. У недалёкім будучым хлопцы стануць свяшчэннікамі, а пакуль свае канікулы праводзілі ў Беларусі. Яны прыязджалі ўпершыню разам са свяшчэннікам Донкаміда, які на працягу трыццаці пяці год кожны свой адпачынак працуе на будаўніцтве розных аб'ектаў у розных краінах свету.

— Мы маглі б прыехаць у Беларусь і турыстамі, але нам хацелася сутыкнуцца з людзьмі, мець як мага больш непасрэдных кантактаў, — паведамілі замежныя госці.

Яны атрымалі, што хацелі. Жылі ў інтэрнаце, разам з эсэндэўскімі студэнтамі, выязджалі на экскурсіі ў Мінск, а па вечарах збіраліся ля вогнішча.

Кожны з іх узяў для сябе штосьці новае. Француженка Сэлін, студэнтка Сарбоны, ехала, каб мець магчымасць практыкавацца ў рускай мове. Марцін, выкладчыца Акадэміі мастацтваў у Бельгіі, цяпер будзе вучыць сваіх студэнтаў не толькі маляванню, але і ўменню рэстаўрыраваць.



Сузаннэ, спецыяліста па каляроваму дызайну з ФРГ, зацікавіла тэхніка выканання фрэсак.

Ці прыедуць яны яшчэ? Абавязкова. Усім хочацца пабываць на святкаванні трохсотгоддзя касцёла.

**Жанна Пацеенак.**
**Фота С.Брушко.**

## "Платнае мора"

Я здзівілася, калі атрымала тэлеграму ад сяброўкі: "Сустракай пятага жніўня цягнік Сімферопаль–Мінск". Ала паехала на поўдзень два тыдні назад у складзе студэнцкага атрада, які павінен быў працаваць там да пятнаццатага верасня на зборы садавіны. І тут гэта нечаканае вяртанне.

Тэхнікум сувязі і швейнае ПТВ № 19 у Віцебску – суседзі. Таму калі фарміраваўся студатрад у саўгас "Перамога" Белагорскага раёна Крымскай вобласці, "сувязнікі" прапанавалі дзесяць свабодных месцаў "швейнікам". Камандзіры атрада намалявалі прывабную карціну двухмесячнага жыцця ў Крыме. Купіцца на паўднёвае сонца, Чорнае мора, бязмерную колькасць бясплатных сліў і персікаў можна было. Заробкаў вялікіх не абяцалі, ды маладыя ехалі ў значнай ступені па рамантыку, тым больш, што там чакаў інтэрнат, вакол якога ці не квітнеючыя ружы, праца да абеду з "лёгкай" нормай, мора ў выхадныя дні і культурная праграма, падрыхтаваная саўгасам. Студэнтам абяцалася аплата трохразовага харчавання на пяцьдзесят працэнтаў, аплата праезду.

Другі дзень пасля прыезду стаў першым працоўным. Пад пякучым сонцам збіраць слівы нялёгка. Да таго ж высветлілася, што норма дваццаць скрынак на чалавека не такая ўжо малая, і за паўдня яе наўрад ці выканаеш. Аплата гэтай працы мізэрная – сорак дзевяць рублёў за дваццаць скрынак. А праз які тыдзень стала вядома, што саўгас будзе аплачваць ужо не пяцьдзесят працэнтаў кошту харчавання, а толькі трыццаць і то пры ўмове штодзённага выканання нормы кожным членам атрада.

Магчыма, у распрацаванай саўгасам культурнай праграме асноўны націск рабіўся на наведванне прыезджымі памочнікамі мясцовага клуба. Ім прапанаваліся даволі сумныя дыскатэкі, бо пад музыку, якая там гучала, рухацца можна было вельмі вяла. Затое на кінаэкране паказваў прыгажун Жан Клод Ван Дам.

Выхадны дзень для студэнтаў быў серад тыдня. У першы атрадаўцаў павезлі да мора. Праўда, як высветлілася пазней, уставаць у шэсць гадзін раніцы не было патрэбы, бо саўгасныя аўтобусы ў будныя дні развозяць працоўных, і здымаць транспарт у "гарачую" пару неразумна. У адзінаццаць гадзін дня ўсё ж купаліся ў моры. А праз які час прайшлі чуткі, што ў наступны раз паездка на мора будзе платнай – шэсцьдзесят рублёў з носа. Вось так, хочаш купацца – любі і грошыкі плаціць.

Ала выязджала адна з першых з наказам ад сяброваў: "Адразу ж давай тэлеграму, калі восенню нам не трэба ехаць на сельгасработы. Тады мы ўсе хутка вернемся".

**П. Крылова.**

# МОЛАДЗЬ БУДЗЕ СЯБРАВАЦЬ



## 1. Афіцыйная частка

14 жніўня ўранку ад'язджаем аўтобусамі ад былога будынка ЦК ЛКСМБ, а зараз — ЦК СМБ, і рушым на поўнач — пад Верхнядзвінск, акурат на мяжу трох рэспублік — Латвіі, Расіі і Беларусі. Вы ніколі не былі ў міжнародным маладзёжным лагеры? А я вось з'ездзіла і праўду скажу, мне гэта спадабалася. Я б нават назвала яго фэстам. Ініцыятары імпрэзы — Саюзы Моладзі Беларусі, Расіі і Латвіі. Госці запрашаліся і з іншых рэспублік былога СССР. Адгукнуліся ж толькі Башкартастан, Азербайджан і Малдова. Шкада, прадстаўнікі апошніх дзвюх краін з-за палітычнай сітуацыі прыехаць не здолелі. Тым не менш фэст, як ён задумваўся, — з дыскусійнымі клубамі, работай секцый (бізнес, маладзёжныя арганізацыі, палітыка і г.д.), вялікай культурнай і спартыўнай праграмай, — удаўся.

Акрамя моладзі трох краін-удзельніц (Беларусі, Латвіі, Расіі) ды прадстаўнікоў Башкірыі, прысутнічалі і афіцыйныя асобы: Ул.П. Сцяшэнка — дырэктар дэпартамента па нацыянальных справах Латвіі, М.В. Падгайны — старшыня камітэта па справах моладзі Рэспублікі Беларусь, Ул.А. Цацоха — намеснік старшыні Віцебскага абласнога выканкама, прадстаўнікі віцебскіх мясцовых уладаў.

Прыняты на фестывалі і зачытаны на закрыцці фэсту сакратаром Саюза моладзі за прагрэс Латвіі Аляксандрам Васільевым зварот да кіраўнікоў краін — Шушкевіча, Ельцына і Гарбунова падаўся мне вельмі талерантным і разумным. Адмаўленне нацыянальнай варожасці, адасобленасці, шчырае жаданне маладых рабіць усё магчымае на іх узроўні для наладжвання ўзаемаразумення і сяброўства, шэраг эканамічных прапаноў-патрабаванняў, такіх, як спрыянне бізнесавым зносінам між краінамі, зняцце абмежаванняў, ільготнае падаткаабкладанне для маладзёжных фірм і арганізацый і тых, хто дапамагае моладзі. Асабіста я лічу ўсё гэта слушным.

Але маладзёжны лагер — не толькі імпрэза грамадска-палітычная.

І таму —

## 2. Культурна-спартыўная праграма

Аляксандр Фядута, першы сакратар ЦК СМБ, любіць цытаты. "Калі хочаш быць шчаслівым — будзь ім",— гэты выраз Казьмы Пруткова я лічу нефармальным лозунгам фэсту.

"Вось у наш час, — кажуць старыя людзі, — мы былі..." Але і моладзь нашага часу, як можна было пераканацца, не мае хібаў па частцы валейбола і жартоўных спартыўных гульняў. А пра спевы і танцы і казаць няма часу.

## 3. Фестываль у фестывалі

Я люблю аўтарскую песню. А калі збіраецца маладзёжная тусоўка, без песень — нікуды. Што і ўлічылі арганізатары, распачаўшы пад вечар другога дня бардаўскі фестываль. Прычым — без журы. Пераможцаў вызначалі гледачы: апладысментамі, свістам, кіданнем гнілой агародніны (хлушу — такога не было), і запіскамі з імёнамі "сімпатый".

Слухач трапіўся цярплівы, і фестывальны канцэрт цягнуўся больш за 4 гадзіны запар. Скажу, што ў ім бралі ўдзел такія вядомыя аматарам беларускамоўныя барды як Алесь Камоцкі , Лера Сом (я б назвала іх пазапраграмнымі ўдзельнікамі. І праўда, колькі можна хваліць дзядзьку Алеся — зазнаецца ж). А пераможцамі сталі Альжбета Бязюк (журналістка беларускай рэдакцыі Варшаўскага радыё, якая нагадала, што беларускасць жыве і ў Польшчы). Уладзімір Северны (Расія) і рускамоўныя Т. Ліхавідава (Віцебск), А.Ермачэнкава (Мінск) і трыо "Фіеста" (дзяўчаткі з Маладзечна).



Дзеля аб'ектыўнасці давядзецца быць нясціплай, але зазначу, што і я рызыкнула выйсці на сцэну. Тут варта сказаць пару слоў пра сцёб. Ён бывае двух відаў: першы — гэта калі ты співаеш жартоўна і ўсе гэта разумеюць. Другі — калі твае жарты часткай слухачоў успрымаюцца сур'ёзна. Як кажуць, "па Богавай памылцы" мая песенька на англійскай мове "You are in Grodno, am in Minsk" ("Ты ў Гародні, я ў Мінску") знайшла пэўную падтрымку ў слухачоў і нечакана для сябе, у камандзіроўцы, я стала ўладальнікам аднаго з прызоў глядацкіх сімпатый. Праўда, не абышлося без пост-прыколаў. Народ з Гродзенскай дэлегацыі падыходзіў часам і пытаўся:

— Песня прысвечана гурту "Seven B"?

— Так,— адказвала.

— А каму?

— Тут здагадвайцеся самі.

І ўжо зусім смешна стала, калі адзін з хлапцоў-гародненцаў спачувальным тонам параіў:

— Ведаеш, на электрычках да Гародні можна заехаць усяго за 30 рублёў.

Думаю, у Гародню мы яшчэ з'ездзім, але зараз час вярнуцца "на мяжу "расстанняў і сустрэч" (не ведаю, адкуль радок, але тут ён надта дарэчы).

Асабіста мне спадабаліся выступленні СТЭМа з Бранска "Квартал 311" і аршанскага тэатра-студыі "Капкан". А дыскатэкі віцебскага дыска-клуба "Свечка" — гэта проста адвал башкі (прабачце, але так гавораць у народзе). Ды і праграму расійскага тэатра "Скрыжаванне" (у арыгінале —"Перекрёсток") я б не адмовілася пaглядзець яшчэ раз.

І нарэшце,

## 4. Эпілог

Фэст скончыўся. Чакайце ў наступным годзе новага. А расейская дэлегацыя захавае дубовую галінку як эстафетную палачку: новы маладзёжны лагер-93 будзе ладзіць Расія.

Так што жыве "БеЛаРусь" — Беларусь, Латвія, Расія!

В. Акуліч.



НА ЗДЫМКАХ: 1. А. Фядута апірымаў прыз за аб'яднаўчую работу – болт з гайкай.
2. З мілым і ў палатцы рай.
3. Цягнуць і не пушчаць!

Фота С. Грыца.



# Развітацца, каб застацца разам

*Гэта наша настала змярканне,*
*Гэта з мовай маёй,*
*Гэта з песняй маёй*
*Развітанне.*
*П.Панчанка. "Развітанне". Верш*

Кожны, хто добра ведае творчасць нашых вядучых майстроў мастацкага слова, па змацыянальнай узрушанасці, грамадзянскаму напалу, публіцыстычнай завостранасці, нарэшце, па стылявому гучанню, можа смела вызначыць, што верш "Развітанне" выйшаў з-пад пяра нашага славутага народнага паэта Пімена Панчанкі. Толькі ён мог звярнуцца — у каторы ўжо раз! — да гэтай балючай тэмы, тэмы роднага слова, роднай мовы, да дзікунскага стаўлення да яе як з боку сучасных феадалаў, бюракратаў-апаратчыкаў, так і тых нашых суайчыннікаў, што, набраўшыся так званай гарадской "культуры", не толькі не хочуць гаварыць на роднай мове, але не жадаюць і блізка падпускаць яе да сябе. Гэта вось катастрафічнае становішча, у якое трапіла роднае слова, прымушае паэта выступаць у яго абарону, ваяваць з цемрашаламі, зрываць з іх маскі брыдкага раўнадушша, абразлівага стаўлення, незразумелай пагарды і нават у некаторых выпадках варожасці да нашай мовы. Б'ючы кулаком у грудзі-барабаны, прыкідваючыся барацьбітамі-інтэрнацыяналістамі, яны даводзілі, што адказваюць за "светлае будучае" і за роднае шчасце гатовы пайсці на эшафот, закрыць целам амбразуру, не сваім, канечне, а чужым, як гэта рабілася ў Афганістане. У той жа час гэтыя балбатуны і пальцам не паварушылі, каб зрабіць што-небудзь карыснае для адраджэння нашай нацыянальнай культуры, нашага роднага слова. Наадварот, гэтыя хамелеоны стараліся як мага больш вытаптаць палеткі нашай мовы, вытруціць з душ усялякую да яе прыхільнасць, не тое што любоў.

Пімен Панчанка добра разумеў, чаму так адбывалася. Бюракратычны легіён абараняў сваю цытадэль, узведзеную за семдзесят з лішнім гадоў рукамі працоўных, у якой яны сядзелі, як у бога за пазухай, пераліваючы з пустога ў парожняе пра свабоду, роўнасць, брацтва і г.д. Свая сарочка была бліжэй да цела. Іх цікавіў уласны дабрабыт, тое спецкарыта, якое паіла і карміла партыйную чэлядзь. Пімен Панчанка ўпарта і зацята змагаўся з гэтымі марнатраўцамі і гультаямі, якія ў сваю чаргу бачылі ў ім чалавека, які можа пасягнуць на іх "заваёвы", стараліся трымаць паэта на відавоку, падазрона сустракалі яго творы, загадзя шукаючы ў іх крамольную думку, што ішла ўразрэз з афіцыйнай установкай, якую наменклатура ўспрымала як закон. Ці не таму ў не так далёкія часы творы паэта не тое што чыталі, а, можна сказаць, вывучалі пад мікраскопам: а ці не тоіцца ў радках нешта такое, што, не дай Божа, можа выбухнуць бомбай, пашкодзіць іх сытаму паразітычнаму жыццю? Гэтым займаліся не высокапастаўленыя чыноўнікі, а іх падручныя. З асаблівай увагай яны прыглядваліся да вершаў, дзе гаворка ішла пра стан роднай мовы. Тым больш, што да гэтай тэмы П.Панчанка звяртаўся так часта, як ніводзін іншы паэт.

Шырокую ўвагу грамадства прыцягнуў яго верш "Развітанне". Адразу трэба сказаць, што гэты верш чытачы ўспрынялі па-рознаму. Той, хто з'яўляўся прыхільнікам роднай мовы і зразумеў задуму верша, радаваўся за той тонкі паэтычны ход і паэтычны прыём, да якога звярнуўся П.Панчанка. Праціўнікі ўбачылі новыя падкопы з боку аўтара, хаця на першы погляд яны павінны былі нібыта радавацца таму, што было сказана ў вершы. Чаму? Ды таму, што калі верш чытаць павярхоўна, можна падумаць, што паэт згадзіўся з іх думкай — наша мова не мае гістарычнай перспектывы, асуджана на павольнае адміранне, а таму і развітваецца з ёй: "Гэта з мовай маёй, гэта з песняй маёй развітанне". Але перш, чым сказаць гэтыя заключныя радкі, паэт учыніў поўны разгром чыноўніцкай гайні — "прыхільнікаў валу і развалу, падману і прыпісак, гультайства і спажывецтва, невуцтва агрэсіўнага і злоснага, кар'ерызму, паслужлівага і нахабнага", паказаў яе па-звярынаму хіжую натуру і нутро, антычалавечую сутнасць. Ды і "развітанне" з мовай гучала для іх неяк не надта пераканаўча. Словам, яны ўлавілі ва ўсім гэтым пэўны для сябе падвох, пэўны падкоп пад іх даўно спарахнелы падмурак, які яны, дарэчы, гадамі ўзводзілі на звычайным пяску, мацуючы яго не цэментам, а глінай не лепшага гатунку.

А вось тыя, хто, здавалася б, павінны былі з першага слова зразумець аўтара, не ўчытаўшыся як след у тэкст твора, не паспрабаваўшы глыбока ўнікнуць у яго падтэкст, так сказаць, у другі план, палічылі, што П.Панчанка сапраўды запанікаваў, адступіў ад свайго ранейшага пераканання і ранейшых пазіцый, здрадзіў роднай мове, развітаўся з ёй беспаваротна і назаўсёды. Кідаючы ў бок паэта такое абразлівае абвінавачванне, яны, безумоўна, пралічыліся. Пралічыліся да саміх сябе. Аднак іх беспадстаўныя абвінавачванні і папрокі паэт не можа забыць і сягоння. Вось як гаворыць П.Панчанка ў прыватным лісце да аўтара гэтых нататак, на які, дарэчы, давядзецца спасылацца і надалей: "Вы адзін з нямногіх, хто зразумеў боль і адчай, што перапоўнілі мой верш "Развітанне". А маладыя паэты "Тутэйшыя" пачалі мяне зневажаць, клясці: "Можа, вам і маці?.. Можа, вам і хлеб наш?.. І гэтак далей..."

Калі большасць "тутэйшых", піша далей П.Панчанка, яшчэ і не нарадзілася, я ішоў дарогаю вайны ад Беластока (я там служыў у арміі 2 гады) і да Магілёва. Тады, у 41 годзе, я напісаў верш "Беларусі", дзе выказана ўся мая любоў да роднага краю. Самалёты раскідвалі гэты верш на тэрыторыі акупіраванай Беларусі. Пра гэта ўспамінае адзін з кіраўнікоў партызанскага руху Кірыл Трафімавіч Мазураў у кнізе "Незабыўнае".

Чытаючы прачулыя радкі верша, нельга нават дапусціць і ў думках, што паэт мог запанікаваць, апусціць рукі, адцурацца ад роднага краю і роднай мовы ўжо ў наш час, у мірныя дні, калі яму ніхто і нішто не пагражае, апрача здрадлівай хваробы, якая ці не зачаста пачала грукацца ў дзверы ягонай хаты. Дзіва што! Ён не выракся, не адцураўся роднага краю і роднай мовы ў смяротна небяспечныя дні не толькі для нашай Беларусі, але і ўсёй краіны.

Безаглядную адданасць роднаму краю і народу пацвярджаюць радкі і строфы з верша "Краіна мая..." Гэты твор напісаны, як можна здагадацца, у хвіліны душэўнага болю за родную зямлю, той настальгіі, калі яна дасягнула свайго апагея, найвышэйшага пункту, за якім пачынаецца ўсевідушчае азарэнне, якое дапамагае нарадзіцца, выйсці з-пад пяра самым кранальна-шчырым радкам.

*Краіна мая, радасць мая,*
*Песня мая маладая!*
*Па нівах тваіх, па тваіх гаях*
*Сынава сэрца рыдае.*

Што гэта? Своеасаблівы плач па самаму светламу і дарагому? Не, хутчэй за ўсё балючая споведзь, выказаная на той трагічнай ноце, якая не можа не крануць нават самыя глухія да ўсяго каменныя глыбы, не кажучы ўжо пра чалавечыя душы. Гэта прагучала ў радках паэта тады, калі, як ён падкрэслівае ў лісце, "тутэйшыя" яшчэ і не нарадзіліся".

Пра свае адносіны П.Панчанка сведчыць, так сказаць, дакументальнай прозай, якой больш вераць, чым вершам, нават пракуроры і следчыя: "Усё ва мне беларускае: і мова, і светаадчуванне, і людзі, і прырода, і песні. Усё гэта было натуральна і не выклікала ніякіх адмоўных эмоцый. Але... характар вечна прыгнечаных беларусаў я пачаў разумець рана.

"Жалкая нация рабов, сверху донизу все рабы..."— так пісаў у мінулым стагоддзі Чарнышэўскі пра рускі народ. А што мы маглі сказаць пра свой беларускі? Вечная прыніжанасць, адчуванне другараднасці, страта годнасці, халуйства перад рускімі і перад палякамі, няведанне сваёй гісторыі. І толькі мова, наша ўпартасць і бясконцая праца, наш сялянскі побыт, нашы абрады, нашы песні і казкі мацавалі народ.

І вось прыязджае наследнік Сталіна Хрушчоў. Абразіў на партыйным сходзе (я быў на гэтым сходзе ў Оперным тэатры) нашага беларускага кіраўніка Мазурава за яго даклад, які ён рабіў на беларускай мове. А пасля арганізаваў мітынг ля універсітэта і пачаў агітаваць студэнтаў і выкладчыкаў супраць беларускай мовы: "Тот придет быстрее к коммунизму, кто освоит великий русский язык".

І тут, працягвае народны паэт, пачалася кашмарная старонка нашай гісторыі. Закрываліся беларускія школы, тэхнікумы. Фурцава прыслала тэлеграму, каб неадкладна перавялі ўсе інстытуты і тэхнікумы на рускую мову. Пачаўся здзек і насмешкі над нашай мовай. Халуі і кар'ерысты растапталі ўсё, што засталося ад роднай мовы, культуры, гісторыі".

Трэба падкрэсліць, што пра родную мову пісалі і іншыя паэты. Але іх вершы нагадвалі хутчэй за ўсё панегірыкі Савецкай уладзе, якая нібыта вызваліла з-пад гнёту нашу мову. Калі ж хто-небудзь і спрабаваў сказаць хоць нейкую долю праўды, то хаваў яе за такі высокі частакол слоўнай агароджы і розных агаворак, што дабрацца да яе было гэтак жа нялёгка, як і да зямлі на шыротах вечнай мерзлаты. Далей гэтага ніхто амаль не ішоў. Тут была мяжа, за якой пачыналася забаронная зона. І толькі П. Панчанка не баяўся сягнуць за гэту мяжу. Чаму? Можа, у паэта выпрацаваўся імунітэт супраць страху і баязлівасці? А можа, ён увогуле з'явіўся на свет з гэтым самым імунітэтам? Ці варта гадаць! Трэба думаць, што паэт знаходзіў у сабе сілу, якая дапамагала перамагаць тыя хібы, што ўласцівы кожнаму з нас. І ў першую чаргу, баязлівасць і страх. Баязлівасць і страх за свой дабрабыт, сваю пасаду, узнагароды, каб гаварыць адкрытую праўду, якой, быццам чумы, баяцца партыйныя апаратчыкі, стараючыся схаваць яе ад людскіх вачэй і вушэй, падфарбоўваючы ў розныя колеры і фарбы. Паэт, як ніхто іншы, ненавідзеў халуйства і зазнайства, наменклатурных пярэваратняў і прыстасаванцаў-званароў і змагаўся з гэтай навалаччу з адкрытым забралам.

Як толькі ў нашым грамадстве з'явілася аддушына і магчымасць выказваць тое, што думаў, уголас, паэт адразу загаварыў пра закулісных дырыжораў, якія ўчэпіста трымалі ў сваіх руках ідэалагічныя лейцы і, тузаючы і нацягваючы іх, раз-пораз стараліся павярнуць любога неслуха ў патрэбны для іх бок. Але не кожны раз. Іх ахвотна слухаліся тыя, хто не меў нічога за душой, апрача хіба што партыйнай кніжкі. Людзі, якія ведалі сабе цану, слухаць то слухалі, але рабілі ўсё па-свойму, як і славуты дзед Талаш. Суфлёр з-за куліс падказваў дзеду: "За ўраджай змагаемся мы мужна, і жывём мы багацей, святлей, дружней..." А Талаш дык не па тэксту: "Слушна, слушна... Трэба сеяць жыта сёлета пазней".

Паэт прыгадвае выпадак, калі, відно, па прамому патрабаванню вышэйзгаданага закулiснага пастуха-паганятага ў прысутнасці вялікага рускага пісьменніка А. Фадзеева, маці якога паходзіла з Беларусі, пад час яго знаходжання ў Мінску, на святочным вечары "пра ўцёс спявак зароў". Пасля, за сяброўскай вячэрай, Фадзееў даў добрага прачуханца: "Я прыехаў песні маці беларускія пачуць". Растлумачыў "мудры Колас": "Саша, ты на нас не злуй — паліцэйскі трапіў у голас і па вобліку — халуй".

Вось такія, з дазволу сказаць, халуйскай вывучкі суфлёры-дзяржыморды рабілі ўсё для таго, каб паказаць і давесці на прыкладзе, што Беларусь упэўнена плітуе па тым бальшаку, які вядзе наўпрасцяк да "светлага заўтра". Дырыжораў-прыстасаванцаў не цікавіла, што і як будзе далей! Іх хвалявала адно, як больш удала дагадзіць начальству, у тым ліку і Фадзееву, мяркуючы заваяваць у яго сімпатыю, пачуць удзячнае слова, пахвалу. Атрымалася ж наадварот.

Гэта быў адзін са спосабаў, пры дапамозе якога нашу мову "ільняную і жытнёвую, сялянскую і баравую, старажытную і светлую, як травы ў расе, вольную і пявучую,— як піша паэт — дратавалі, здзекваліся, мучылі". Хто? Усе невукі! Але тыя, каму яны, стараючыся дагадзіць, лізалі пяткі, бачылі — халуі, і грэбліва адварочваліся ад іх.

Цікава, што ўжо ў гэтых радках паэт набліжаецца да той думкі, якая выказана ў вершы "Развітанне". Той самы рашучы тон, тая ж, на мяжы душэўнага зрыву, але ў межах інтэлігентнай мяккасці і прыстойнасці, поўная драматызму, заява ці прызнанне:

*Навучылі не рабіць — хлусіць і красці.*
*Дзеці ў школы з іншай моваю бягуць.*
*Я хацеў, нашчадкі, вас праклясці,*
*Ды люблю сваю зямлю і не магу.*

У апошнім радку ўвесь духоўны свет паэта, яго характар і натура, яго жыццёвая аўтабіяграфія. Пра гэты радок можна напісаць цэлае даследаванне.

Але колькі ні гаварыў паэт пра мову, якім толькі голасам — лірычна-інтымным ці перунова-публіцыстычным — ні звяртаўся да чытачоў і тых, хто душыў яе развіццё і адраджэнне, не даваў ходу і перадыху, мала хто адклікаўся справай на звароты і выступленні П. Панчанкі. Так можна было дайсці да звычайнай душэўнай дэпрэсіі, у роспачы апусціць рукі, расчаравацца, згадзіцца з рэальным становішчам спраў, маўляў, досыць біцца галавой аб сцяну раўнадушша і абыякавасці. Але паэт не з ліку слабавольных. Яшчэ не ўсё было выкарыстана з яго паэтычнага і духоўнага арсенала і магчымасцей. Меўся ў запасе галоўны калібр. Каб пусціць яго ў ход, трэба было пайсці на пэўную рызыку, якую, мабыць, не ўсе на першым часе могуць і зразумець. Але без рызыкі нельга абысціся ў такіх сітуацыях. Толькі рызыкоўныя ўчынкі могуць прыцягнуць увагу ўсяго грамадства. Вось як піша П. Панчанка ў вядомым для нас ужо лісце: "У паэзіі, у музыцы здаўна прысутнічае тэма разлукі, развітання — аж да "Прощай, немытая Россия". Вось і я думаў гэтым вершам ("Развітанне") развярэдзіць рэшткі любові нашых людзей да беларускай мовы. Але не выйшла..."— з горыччу канстатуе паэт. І памыляецца. Выйшла, Пімен Емяльянавіч! Ды яшчэ як выйшла! Радкі здолелі, што называецца, зачапіць за жывое вельмі і вельмі многіх. І тых, хто зразумеў сэнс сказанага, і хто не зразумеў, не здолеў паварушыць, як кажуць, глуздамі, задумацца над тым, ці мог паэт адмовіцца ад матчынай мовы.

У лісце П. Панчанка піша: "Хам і нягоднік... затаптаў нашу мову, нашы школы, а мы з гэтым змірыліся. І вось з'явілася Рэспубліка Беларусь. Бел-чырвона-белы сцяг, "Пагоня". А наменклатура супраціўлялася і супраціўляецца.

Ох, як цяжка будзе нам аднавіць сваю годнасць, свой аўтарытэт, сваю мову. А тут яшчэ ўсесаюзнае засілле ў рускай літаратуры розных дысідэнтаў і здраднікаў. Ужо здзекуюцца з Шолахава і Твардоўскага. А нашы маладыя паэты, якія пішуць на ўзроўні другаразрадных "нашаніўцаў", пачынаюць крушыць аўтарытэты.

Цяжка, вельмі цяжка будзе нам аднавіць нашу родную мову і сваю культуру. Але першыя зрухі ўжо ёсць. Віншую з Рэспублікай Беларусь! З гербам! Са сцягам!"

Так, Пімен Емяльянавіч, зрухі ёсць і немалыя! Лепшыя дочкі і сыны нашай рэспублікі гавораць і выступаюць на роднай беларускай мове на пасяджэннях і адказных форумах Вярхоўнага Савета. А гэта прыкмета таго, што наша мова, за якую хварэюць, за якую змагаюцца ўсе тыя, хто лічаць сябе сапраўднымі беларусамі, не адыдзе ў нябыт, не акамянее, а, трэба думаць і верыць у гэта, набудзе другое дыханне, расквітнее і стане роўнай сярод роўных не толькі ў нашай краіне, але і ва ўсім свеце.

Васіль МАКАРЭВІЧ.

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯ

## ВЕРАСЕНЬ

5/23. Дзень святога Лупа. З гэтым хрысціянскім святам звязана прыкмета: "Нельга сеяць жыта, бо на ніве будуць "Лупы" (г.зн. жыта ўзыдзе і вырасце плешынамі).

7/25. Дзень святога Варфаламея. У гэты дзень сяляне пачыналі сяўбу азімых. Пачынаюцца адлёт птушак і славутыя асеннія вяселлі. "Святы Баўтрамей высылае буслоў на дзяцей".

8/26. Другая Прачыстая. "Прыйшла Меншая Прачыста, канчай сеяць начыста".

10/28. Дзень святога Мацея. Самы шануемы святы для жонак мужчын-п'яніцаў. Лічылася, што ён абараняе ад запойнага п'янства. У гэты дзень сялянкі шанавалі святога ратаваецеля сваіх мужоў.

11/29. Галаварэз. Гэта — народная назва царкоўнага свята "Усекновения главы Пророка Иоанна". Лічылася, што ў дзень гэты нельга нічога рэзаць, нават агародніну і хлеб.

13/31. Пачатак сяўбы ячменю.

14/1. Узвіжанне. Сяляне заканчвалі работу на палях. "Узвіжанне з поля збірае". У гэты ж дзень праводзілася старадаўняе язычніцкае свята — Жаніцьба пасвета. Хатні агонь, комін жанілі на працы альбо на каханні. Сімвалізавалася ўступленне ў шлюб бога агню Жыжаля і багіні кахання Лады.

19/6. Народнае свята — Цуды. Чакалі ў гэты дзень бяду альбо непрыемнасць.

21/8. Багач. Старажытнае язычніцкае свята, звязанае з заканчэннем уборкі збожжавых. Недзе з гэтага дня жанчыны пачыналі хатнія жаночыя работы.

24/11. Дзень святога Тодара. "На Тадору ўсякае лета канчаецца". Супадае з днём астранамічнага асенняга раўнадзенства.

27/14. Уздзвіжанне. "Уздзвіжанне лета замыкае, ключык шызая галачка за мора панесла".

29/16. Дзень святога Міхала. "На Міхала ясна ноч — будзе трывалая зіма".



*Гіпотэза*

# ДЗЕ Ж ?

На працягу амаль 180 гадоў у Нясвіжскім замку князёў Радзівілаў вядуцца пошукі фамільных каштоўнасцей гэтага роду. У княжацкай скарбніцы, аб месцы захоўвання якой па ўстаноўленаму правілу ведалі толькі сам уладальнік і адзін са слуг, які карыстаўся даверам, знаходзіліся каштоўныя калекцыі старадаўняй зброі, карціны (у тым ліку, магчыма, і пэндзля самога Рэмбранта), сталовы посуд з серабра і золата, "12 апосталаў" — скульптуры евангелічных святых, якія асвечаны ў Ватыкане, па-высокамастацку выкананы з серабра і золата і ўпрыгожаны каштоўнымі камянямі, а таксама найбагацейшы архіў з важнымі дакументамі па гісторыі мнагіх дзяржаў Еўропы.

Гэтыя скарбы былі страчаны, калі іх уладальнік — Дамінік Радзівіл у самым пачатку ваеннай кампаніі 1812 года перайшоў разам са сваім пяцітысячным палком уланаў на бок Напалеона. Затым удзел Дамініка Радзівіла ў паходзе на Маскву, бясслаўнае адступленне разам з разбітымі французамі, раненне і хуткая смерць у вёсцы Лаўтрэк, што знаходзілася не то на заходнім беразе Рэйна, не то ў Францыі.

Камандзір 14-га егерскага палка А.І.Краскоўскі дакладваў рускаму камандаванню з вызваленага Нясвіжа: "Праціўнік не чакаў атакі, а ачысціў горад, у якім знойдзена больш чым на мільён каштоўнасцей, брыльянтаў, жэмчугу, якія былі нарабаваны ў Маскве і прывезены ў Нясвіж на захаванне". У выніку склалася меркаванне, што знойдзеныя ў Нясвіжы нагружаныя на падводы каштоўнасці, якія ўваходзілі ў вядомы спіс нарабаваных Напалеонам рэчаў, нібыта былі перакуплены Радзівілам у французаў у Маскве і дастаўлены ў свой час у Нясвіж. У момант адступлення ўсё гэта было падрыхтавана да адпраўкі на захад па распараджэнню Дамініка Радзівіла, які за некалькі гадзін да паспешлівага ад'езду наведаў свой замак. Гэтыя факты, разам са здрадай расійскай кароне, паслужылі падставай для накладання арышту на маёмасць самога Дамініка. Але ні сярод каштоўнасцей, захопленых пры ўзяцці горада рускімі войскамі, ні сярод вялікай колькасці рэчаў з Радзівілаўскага замка, багаццяў з фамільнай скарбніцы не аказалася.

Раніцай аднаго з лістападаўскіх дзён 1812 года ў замку былі знойдзены задушанымі два дваровыя, якія напярэдадні абяцалі паказаць скарбы князёў Радзівілаў. Потым тое ж здарылася з двума рускімі салдатамі з аховы замка. На падставе сведчанняў дваровых, па падазрэнню ў забойствах быў арыштаваны, а хутка і пакараны радзівілаўскі эканом, вядомы як "Адам для асобых даручэнняў". Праз некалькі дзён у наваколлі мястэчка Мір быў затрыманы і растраляны конны ганец з данясеннем Дамініку Радзівілу аб тым, што Адам схаваў у надзейным месцы, аб якім яны дамовіліся, 12 каштоўных апосталаў, сталовае серабро, карціны, а таксама частку рэчаў, якія даставілі з Масквы, а астатняе вывозяць з замка салдаты. Напэўна, рускі ваенна-палявы суд не пасляшаўся б з выкананнем смяротнага прыгавору Адаму, калі б быў вядомы змест гэтай запіскі.

З таго часу Нясвіжскі замак і яго наваколле сталі прыцягальным месцам для многіх шукальнікаў скарбаў. Яшчэ не скончылася вайна з Напалеонам, а па царскаму ўказу тут ужо былі праведзены доўгія і старанныя пошукі скарбаў спецыяльна накіраваным атрадам лейб-гвардзейцаў, якія мелі пэўнае заданне адшукаць 12 апосталаў і даставіць іх у Пецярбург. Цікавіліся імі і выхаванцы кадэцкага корпуса, якія размясціліся ў замку. Яны шукалі каштоўнасці як у замку, так і на Замкавай гары.

Новы перыяд, які вызначаўся асабліва сур'ёзнымі і мэтанакіраванымі пошукамі скарбаў, пачаўся ў 1875 годзе, калі ў Нясвіж прыехаў жыць чарговы нашчадак роду Радзівілаў, на гэты раз з пруская яго лініі, што знаходзілася ў Германіі і Аўстрыі. Новы ўладальнік замка, якім стаў Анатолій Радзівіл, — генерал-ад'ютант імператара Вільгельма І, адразу ж пачаў сур'ёзныя работы па іх пошуку: быў перакапаны правы брустверны насып замка, выкапаны катлаваны, скрупулёзна даследаваны падвальныя памяшканні і асабліва ўважліва — падвальныя перагародкі сямейных магільных скляпоў князёў Радзівілаў, былі разабраны моцныя перагародкі Паляўнічай залы замка. Даследаваліся ўсе іншыя пабудовы замкавага комплексу. Вынік быў адмоўны.

Існуюць яшчэ два эпізоды з эпапеі пошуку радзівілаўскага скарбу "прускімі нашчадкамі", якія унікальныя нават для гісторыі такога характару. У 1914 годзе Нясвіж быў канфіскаваны ў Радзівілаў рускім кіраўніцтвам. У бурныя рэвалюцыйныя гады, калі ўлада ў гэтых месцах пераходзіла з рук у рукі не адзін раз, на кароткі перыяд з сярэдзіны лютага па снежань 1918 года, разам з кайзераўскімі акупацыйнымі войскамі Радзівілы зноў вярнуліся ў Нясвіж. ...І зноў узяліся за пошукі скарбу ў Нясвіжскім замку і яго наваколлі, прычым, займаўся гэтым цэлы сапёрны батальён аўстра-венгерскай арміі. А ў 1941 годзе да яго пошуку прыступіла ў акупіраваным гітлераўцамі Нясвіжы спецыяльная пошукавая каманда ведамства Розенберга — сапёрная рота. Яна была аснашчана самымі сучаснымі па тым часам тэхнічнымі сродкамі. Знайшлі патайнік са старадаўнімі карцінамі і выгравіраваныя на аркушах залацістай латуні энцыклікі Ватыкана. Але легендарных каштоўнасцей фашысты так і не знайшлі.

Такім чынам, нягледзячы на доўгія, з нямецкай добрасумленнасцю і пунктуальнасцю праведзеныя пошукі, скарбы, у існаванні якіх не ўзнікае сумненняў, да гэтага часу не знойдзены. Хоць ход пошуку скарбу прадстаўнікамі пруская лініі роду Радзівілаў гаворыць аб тым, што ў іх мелася пэўная інфармацыя, магчыма, атрыманая ад лекара, што знаходзіўся побач з паміраючым Дамінікам, або ад гаспадара дома, у які яго прынеслі параненага.



Ці мог Дамінік Радзівіл у час паходу на Маскву стаць уладальнікам тых вялікіх багаццяў, якія трапілі рускім войскам у Нясвіжы? Яго войска, паводле розных звестак, складалася ад трох да пяці тысяч чалавек, а ўсяго ў паходзе на Маскву прымала ўдзел да шасцісот тысяч. І калі нават уласны абоз Напалеона (яму "па праву дужага" належалі "вяршкі" ваеннай здабычы), які прапаў без вестак, налічваў некалькі падвод з так званай "маскоўскай здабычай", то малаверагодна, што доля Радзівіла магла складацца з некалькіх падвод брыльянтаў і жэмчугу.

Ці мог князь перакупліваць у французаў нарабаванае імі ў Маскве? Але тады якімі ж каштоўнасцямі яму неабходна было разлічвацца за тыя ж брыльянты і жэмчуг?

Можна выказаць меркаванне, што ў Нясвіж былі прывезены каштоўнасці, якія Дамінік набыў у Маскве, — пра гэта ўспамінаецца і ў данясенні эканома Адама, але яны былі схаваны ім разам з 12 апосталамі ў патайніку яшчэ да прыходу рускіх войск. Наўрад ці Дамінік вывез абоз з нарабаванымі багаццямі восенню 1812 года, паколькі ўжо са жніўня ў напалеонаўскай арміі пачалося масавае дэзерцірства і да канца ваеннай кампаніі ў Расіі 60 тысяч дэзерціраў пачалі грабіць не толькі мясцовых жыхароў, але і тылы французскай арміі. Для аховы кожнага падобнага абозу спатрэбілася б усё войска Дамініка Радзівіла.

І сапраўды, маюцца сведчанні, што пры адступленні з Масквы з палком Дамініка ішло 50 падвод з дабром, захопленым у Маскве. Асноўная маса французскіх войск адступала па старой Смаленскай дарозе. Услед за імі рухаліся рускія. Радзівіл жа пакінуў армію Напалеона і выбраў шлях для сваіх уцёкаў у паўднёвым напрамку, рухаючыся па добра вядомых яму і яго людзям мясцінах, у якіх рэгулярных рускіх войск тады яшчэ не было. Частку сваіх уланаў ён страціў у сутычках з казацкімі раз'ездамі,

*Міфалогія*



# ПЯРУН

Самая велічная постаць у славянскім пантэоне — Пярун. Гэта — Зеўс усходніх славян, цар над багамі і смяротнымі. Ён раз'яджае па небе на вогненнай калясніцы і ў гневе асыпае зямлю вогненнымі стрэламі-маланкамі. Менавіта з-за яго дрэннага настрою і ўзнікаюць навальніцы.

Перуна лічылі сваім апекуном ваяры і князі. Першыя — за яго ваяўнічы нораў, другія — за тое, што ён вярхоўны бог і займае такое ж становішча на небе, як яны на зямлі. На капішчах нашы продкі маглі размясціць ідалаў далёка не ўсіх багоў, але Пярун там быў абавязкова. Больш таго, яго выява займала пануючае месца. Імем Перуна кляліся. Ім жа і праклінілі. Шмат з чытачоў, пэўна, чулі хоць раз у жыцці словы: "Каб цябе Пярун ляснуў". Праўда, зараз пад гэтымі словамі маецца на ўвазе з'ява прыроды. Справа ў тым, што ў беларускай мове імя бога стала сінонімам да слова "гром".

Але Пярун не заўжды займаў такое выключнае становішча ў міфалогіі. Першапачатковым вярхоўным богам усходніх славян лічыўся Даждзьбог (ён жа Сварог, ён жа Хорс). Даждзьбог лічыўся старэйшым і па ўзросту. Магчыма толькі багіня-бабуля Мокаш ды (па версіі С. Хмары, якая была выказана ім у кнізе "Аб багох крывіцкіх сказы") Каляда былі старэйшымі за яго. Але Даждзьбог з'яўляўся даволі мірнай істотай. Ён адказваў хутчэй за ўрадлівасць, за жыццё на зямлі. Яго мала цікавілі міжусобныя сутычкі, імкненне да ўлады, чалавечае славалюбства, ваенныя канфлікты. Гістарычна настаў такі час, калі маючым уладу стала патрэбна іншае вярхоўнае бажаство. Спатрэбіўся апякун-воін. І яны хуценька "разжалавалі" Даждзьбога да становішча бога прыродных сіл і пасадзілі на спусцелы нябесны трон Перуна. Той да гэтага быў усяго толькі богам навальніцы. Мала таго, людзі перакраілі па-свойму міфалогію і аддалі замуж за Перуна маці-прарадзіцельніцу Каляду. Гэтым падкрэслівалася, што Пярун павінен лічыцца самым галоўным богам. Паводле ранняй міфалогіі, Каляда была маці Даждзьбога. І нарадзіла яго без дапамогі бога-мужчыны, па-свайму "ўласнаму хаценню". У новай жа версіі атрымалася так, што ў Даждзьбога з'явіўся бацька — Пярун. Акрамя Даждзьбога, Перуну "прыпісалі" яшчэ цэлую кучу дзяцей — багоў і паўбагоў. У розных рэгіёнах Беларусі называюць розную іх колькасць і розныя імёны.

Барацьба хрысціянства супраць язычніцтва ў першую чаргу азначала барацьбу супраць Перуна і яго культу. Паколькі ён быў найбольш папулярным богам, то гнеў прыхільнікаў новага веравызнання ў першую чаргу накіроўваўся менавіта на яго ідалаў. Выявы Перуна палілі, скідвалі ў ваду, секлі на дробныя трэсачкі. Але, як высветлілася пазней, усё гэта было даволі марнай справай. У народным календары беларусаў да гэтых часоў існуе язычніцкае свята шанавання гэтага велічнага бога — Грамніцы. Дарэмна спрабавалі злучыць яго з хрысціянскім святам Срэцення. Гэтаксама не ўдалося замяніць велічнага язычніцкага бога кволым яўрэйскім прарокам Ільёй. Народ ператварыў гэтага самага Ілью ў грозную істоту, якая, як калісьці Пярун, раз'язджае ў часы гневу па небе на вогненнай калясніцы і кідаецца стрэламі-маланкамі.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**Мікола БАГАДЗЯЖ.**

# СКАРБ



астатнія разбегліся па дамах. Але, далучыўшыся потым да войск Напалеона, які пеpажыў цяжкую трагедыю на Беразіне, Дамінік не толькі не быў пакараны, а нават уласна суправаджаў у далейшым адступленні імператара, які, як вядома, пераапрануўся ў Смаргоні ў мундзір польскага ўлана.

Дык чые ж дзесяткі падвод з каштоўнасцямі суправаджаў Дамінік перад гэтым і куды яны падзеліся? Чым выклікана такая прыхільнасць да яго з боку Банапарта? А калі менавіта Дамініку Радзівілу было даручана транспартаванне захопленых у Маскве каштоўнасцей!? Бо імператарскі абоз знік бясследна з распалажэння стаўкі ў адну з начэй яшчэ на Смаленшчыне. Дзесьці ў гэтых мясцінах і Дамінік Радзівіл са сваім палком пакінуў напалеонаўскую армію.

У Нясвіжы Дамінік прабыў усяго некалькі гадзін і паспешліва адступіў, бо даведаўся аб набліжэнні рускіх войск. Тады, у час уцёкаў, маглі быць згублены некалькі падвод з імператарскага абозу. Але тут ён не сустрэў свайго дваровага эканома Адама, інакш таму не прыйшлося б потым, вярнуўшыся дамоў, пасылаць ганца з данясеннем аб сваіх дзеяннях на пошукі князя. Куды ж мог паехаць Дамінік, маючы на руках такія скарбы і разумеючы, што рускія войскі, якія ўсюды сталі гаспадарамі становішча, будуць шукаць яго з "маскоўскай здабычай"? Што, калі ён вырашыў схаваць частку абозу, што засталася ў яго, у тым самым тайніку, дзе, як мы ведаем, ужо схаваў фамільную скарбніцу эканом Адам?

Прасочым, куды мог накіравацца пасля Нясвіжа Дамінік Радзівіл. Нагадаем, што ганца, які быў пасланы эканомам, захапілі і расстралялі ў наваколлі мястэчка Мір. Магчыма, што ён быў перахоплены не на шляху да гаспадара, а на месцы, дзе павінен быў сустрэцца з Дамінікам і дзе, магчыма, шукаў яго некалькі дзён. На ўскраіне Міра, на невялікім аддаленні ад яго знаходзіцца вялікі Мірскі замак, які перажыў больш як чатырохвяковую гісторыю. Цікава, што гарадок разам з замкам таксама ўваходзіў да 1812 года ва ўладанні нясвіжскіх Радзівілаў. Таму можна лічыць, што Мірскі замак быў добра знаёмы Дамініку.

Вядома, што будаўніцтва замкавага комплексу ў Міры праходзіла ў некалькі этапаў. Першапачаткова, у пачатку XVI стагоддзя, былі пабудаваны крапасныя сцены, вежы і земляныя ўмацаванні. Затым, у сярэдзіне XVI стагоддзя, унутры замка з паўночнага і ўсходняга боку з'явіліся аднапавярховыя карпусы з вялікімі падваламі. Потым, на працягу стагоддзя гэтыя карпусы былі надбудаваны да трох паверхаў і атрымалі планіроўку, якая ўласціва палацу. У справаздачы аб абследаванні замка, якое адбылося ў 1912 годзе, гаварылася, што падвалы ў палацы былі двух'яруснымі, але хадоў у ніжні ярус падвалаў не адшукалі з-за таго, што ад выбуху, які адбыўся ў 1812 годзе, усе скляпенні абваліліся ўніз і пахавалі пад сабою падвал з запасамі (як лічылі тады) віна.

Нарэшце, з даўніх часоў у Міры існуе народнае паданне аб нібыта схаваных у падвалах замка незлічоных багаццях. Гэта легенда была пакладзена ў 1851 годзе мясцовым польска-беларускім паэтам Уладзіславам Сыракомляй у аснову верша-прытчы. У звестках аб замку, які стаіць у руінах, і яго багатых гаспадарах, чый род перапыніўся, угадваюцца нясвіжскія Радзівілы і Мірскі замак. Аповед жа аб падвале з набітымі золатам скрынямі і аб мерцвяку-прывідзе, які ахоўвае скарбы ад усіх спроб да іх дабрацца, быў бы вельмі падобным на падобныя гісторыі, калі б не вельмі ўжо канкрэтныя дэталі апісання адзення гэтага прывіду — апрануты ён быў у сабалёвую даху, пад якой знаходзіўся стальны панцыр. А што, калі гэта тыя дэталі, якія асабліва запомніліся мясцовым жыхарам, якія, магчыма, спрабавалі прабрацца калісьці ў падвалы замка або проста збіралі цагліны на руінах для сваіх гаспадарчых патрэб і нечакана знайшлі астанкі чалавека ў дарагім футры?

Устае новае пытанне: калі мог быць пахаваным пад руінамі чалавек у сабалёвым футры і панцыры пад ім? Значныя баі паміж казакамі Платава і выступаўшымі на французскім баку кавалерыйскімі часцямі генерала Ражнецкага, адбыліся каля сцен замка ў ліпені 1812 года. Некаторыя даследчыкі лічаць, што тады і была ўзарвана паўночна-ўсходняя вежа замка і далучаная да яе частка палаца (якраз пад ёй і знаходзіліся вялікія двух'ярусныя падвалы). Кавалерыйскія бітвы адбываліся ў 2-3 кіламетрах ад замка, які ў якасці аб'екта баявых дзеянняў не ўпамінаецца. Яшчэ менш пераканаўчымі з'яўляюцца думкі тых аўтараў, якія лічаць, што гэтыя разбурэнні адбыліся пры баявых дзеяннях, звязаных з адступленнем французаў у лістападзе 1812 года. Факты сведчаць аб тым, што чатырохтысячны атрад напалеонаўскага генерала Касецкага, які дзейнічаў у гэтых месцах, быў разбіты 1 лістапада 1812 года недалёка ад Міра ў баі пад Нова-Свержанем. У далейшым рускія войскі генерала Чычагава практычна не сустрэлі ніякага супраціўлення ў тых месцах, інакш як бы яны на працягу гэтага ж аднаго дня — 1 лістапада 1812 года — змаглі авалодаць гарадамі Мір, Стоўбцы і Нясвіж, якія знаходзяцца адзін ад аднаго на адлегласці да 40 кіламетраў. Дарэчы, большасць аўтараў, якія расказваюць аб гісторыі Мірскага замка, у пытанні датавання разбурэнняў, звязаных з падзеямі Айчыннай вайны 1812 года, дыпламатычна займаюць нейтральную пазіцыю, не ўдакладняючы — у ліпені ці лістападзе 1812 года яны адбыліся.

Яшчэ адна цікавая дэталь наконт характару саміх разбурэнняў: у паўночна-ўсходняй вежы, у якой нібыта адбыўся выбух запасаў пораху, атрымаўся толькі пралом у сцяне на ўзроўні 2 і 3 паверхаў палаца, якія калісьці прымыкаў да вежы, але пашкоджаная выбухам частка палаца ўяўляе сабой нагрувашчанне руін.

Але як бы там ні было, выбух у замку ўсё ж быў, і адбылося гэта верагодней за ўсё ў марозным лістападзе 1812 года. І ці не быў ён спецыяльна прадпрыняты для таго, каб схаваць пад руінамі ўваход у падзямелле, дзе знайшлі прытулак не толькі скарбніца Радзівілаў, раней схаваная там эканомам Адамам, але і маскоўская здабыча Напалеона, прывезеная халоднай лістападаўскай ноччу Дамінікам Радзівілам?

Адсутнасць непасрэдных сведкаў перавозкі і захавання скарбаў Напалеона (магчыма наўмысна, а магчыма і выпадкова пахаваных магутным выбухам разам са скарбамі) таксама служыць на карысць прапанаванай гіпотэзы. Калі мець гэта на ўвазе, то можна растлумачыць існаванне "прывіду" ў сабалёвым футры і панцыры, які "ахоўваў" схаваныя руінамі скарбы...

З 1812 года ніводнага разу не было спроб узнавіць разбураную частку палаца ў паўночна-усходняй вежы. Наадварот — час, а таксама падзеі апошняй вайны яшчэ больш разбурылі замак. Але нават па плану рэстаўрацыйных работ, якія вядуцца тут з 1983 года, гэтую — самую разбураную — частку замка вырашана пакінуць у існуючым стане. Разам з тым зацікаўленасць да правядзення абнаўленчых работ у Мірскім замку праяўляюць далёка за межамі нашай рэспублікі. Так, 5 кастрычніка 1990 года ў інтэрв'ю радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" старшыня Мірскага пасялковага Савета паведаміў, што былыя ўладальнікі замка, якія жывуць за мяжой, звярталіся з прапановай хоць зараз правесці поўную рэстаўрацыю за свой кошт.

Аўтар разумее, што правядзенне самастойных пошукавых работ у замку, які з'яўляецца помнікам архітэктуры XVI стагоддзя і філіялам рэспубліканскага Дзяржаўнага мастацкага музея, немагчыма. Акрамя таго, размова ідзе пра лёс вельмі значных матэрыяльных і культурных каштоўнасцей. Спецыялістам адпаведнага профілю неабходна папярэдне даследаваць падвальныя памяшканні Мірскага замка з дапамогай тэхнічных сродкаў, у выпадку станоўчага выніку патрэбна будзе правесці археалагічныя работы, каб іх расчысціць. Можа пад час іх правядзення і будзе ў рэшце рэшт знойдзены гэты славуты скарб?

**Уладзімір ВАРАНОВІЧ.**

# ГЭТАЯ НЕНАРМАЛЬНАЯ З "07"

*Ёй не падыходзіць зямное імя.*
*Ёй немагчыма даць зямное азначэнне.*
*Гэта таямніца.*
*Гэта загадка.*
*Гэта невядомасць.*
*Гэта непрыступны чалавек, які заварожвае, прыцягвае да сябе невядомымі сіламі...*
*Чалавечак з Зоркі... Зорачка.*
*Інакш не назавеш.*
*Яна жыве ў сваім свеце, у нейкім іншым вымярэнні.*
*Яе вочы — яе душа.*
*У іх — музыка, яе вершы, яе малюнкі.*
*Яе песні — гэта склад яе думак, стыль жыцця.*
*Яна спявае пяшчотна, асцярожна, як з полымем у завею.*
*Быццам лучынка... Яшчэ лучынка. Хочацца засланіць ад ветру і не дыхаць.*
*У ёй усё злілося разам.*
*Вакол яе арэол дабрыні, чысціні і святла.*
*Ад яе ідзе цяпло, пяшчота і каханне.*
*Пачуўшы, даведаўшыся, адчуўшы, яе нельга не пакахаць.*
*Такім чынам, імя яе Наталля Плаціцына.*
*Запомніце яго.*



**– Наталля, як мне стала вядома, – ты па гараскопу Скарпіён, а Скарпіён неахвотна выдае інфармацыю пра сябе. Ці можна спадзявацца, што адбудзецца ўцечка інфармацыі з тваёй свядомасці або падсвядомасці?**

— У пэўнай ступені...

**– Скарпіён – знак, які звязаны з сексам, смерцю, звышнатуральнымі сіламі. Як ты суадносіш гэта з сабой?**

— Ты назвала тры вызначальныя асновы — каханне, вечнае каханне і сілы дабра і зла, якія крочаць побач. А каханне — гэта гармонія і, як жанчына, я імкнуся да яе. Вядома, хочацца быць прыгожай і прыемнай у адносінах з усімі — гэта вонкавы бок. Але яшчэ існуе ўнутраны свет, які спалучае духоўнае і матэрыяльнае, і гэта спалучэнне нараджае нешта непаўторнае ў чалавека. Аб тым, што ёсць "Я", меркаваць не мне.

**– У цябе ёсць сяброўкі?**

— Не.

**– Чаму? Гэта свядома?**

— Мг... Вядома. Маімі сяброўкамі былі хлапчукі і ў дзяцінстве бацькі называлі мяне хлапчуком. Так ужо сталася. Я прывыкла ў сваім жыцці апірацца на мужчын. Адзіная сяброўка — мая мілая мама, я яе вельмі люблю. А вось бацька, на жаль, не дажыў да таго часу, калі я стала спявачкай.

**– А як ты ступіла на шлях творчасці?**

— Усё проста. У дзяцінстве кожнае лета я праводзіла ў адной з вёсак Стаўраполля, дзе жылі бабуля з дзядулем. Гэта быў асобны свет. Я запамінала ўсё. Памятаю, як у два гады, калі ў чарговы раз сабраліся госці, бацькі паставілі мяне на табурэт і папрасілі праспяваць што-небудзь. Ну я і выдала ім прыпеўкі з малюнкамі. Усе вельмі смяяліся. ...Аднаго разу бацька вадзіў мяне ў цыганскі табар, пасля чаго я заспявала цыганскія песні. Збірала бабулек-суседак, рабіла імправізаваную заслону, пачынала канцэрт — спявала, чытала вершы, нават нешта прыдумвала сама. Атрымліваецца, што я пішу даўно. Але я абсалютна бесшабашны чалавек. Я не пішу ў адзін блакнот, у мяне ўсё на паперках, нейкіх асобных лістках, нават на газетах. Дзе давялося, там і запісала... У 20 год я зразумела, што хачу займацца музыкай усур'ёз. Быў інстытут і тэатральная студыя. А потым у мяне з'явіўся блізкі і надзейны сябра Валодзя Сушко (бас-гітара). Гэта выдатны чалавек і таленавіты музыкант. Неяк мы вырашылі, што ў нас будзе свая група, назвалі яе "07", і паехалі на гастролі. Чаму "07"? Не ведаю, як і растлумачыць. Тут і нумаралогія, і містыка, магія сямёркі. Я ніколі, ніводнаму журналісту не давала адказу на гэтае пытанне.

**– Наталля, калі пішаш вершы, ты заўсёды іх бачыш песнямі?**

— Такая дзіўная рэч. Я яшчэ не памятаю выпадку, каб я напісала верш (а гэта могуць быць два радкі) і ён не суправаджаўся якой-небудзь унутранай мелодыяй. Словы не заўсёды становяцца песняй, але я заўсёды чую вершы ў абрамленні музыкі. Гэта або рытмічная, зладжаная музыка, або павольная, ледзь не плачавая. Ведаеш, як раней спявалі, цудоўна спявалі — плачам. А песня ў нас з'яўляецца максімум за гадзіну. Афармляецца па гармоніі і мае ўсю схему, каб пачаць над ёю працаваць з музыкантамі.

**– Я вось бачу – на ўсіх дысках толькі твае вершы.**

— Так, вершы толькі мае. Аднойчы мы селі камандай і паслухалі маю песеньку. Гэта быў суперхіт "Раніца ў рабочай слабодцы". Тады пайшла хваля андэграўнда. Мы не мінулі яе. Але мы рабілі гэта шчыра, таму што нам хацелася расказаць пра нейкія піцерскія балячкі. Я паказала хлопцам тое, што прыдумала. Яны вырашылі, што будзем працаваць над песнямі на мае вершы. А наогул пішам я і Вова, Вова і я. Дзякуй Богу, мы пазбеглі таго, як бывае: чалавек напіша адну песню за год і больш нічога выдаць не можа. Я не сказала, што вось ужо тры гады з намі "сее і арэ" цудоўны гітарыст і вельмі добры чалавек — Косця Віткоўскі. А вось ударнік не вытрымаў націску эканомікі і падаўся ў брокеры. Думаю, што гэта часовая з'ява. Пажывём — пабачым.

**– Кожны можа ўспрымаць твае песні па-рознаму. А такія радкі – "паутину лестниц сплету", "в небе вчерашнего дня – небессмысленная колея", "шар стеклянный спиралью ввысь" – могуць падацца дзіўнымі. Якому ўспрыманню тваіх песень ты аддаеш перавагу?**

— Усё, што датычыць самавыяўлення любога творчага чалавека, павінна ўспрымацца на інтуітыўным узроўні, на ўзроўні падсвядомасці. Навошта я буду растлумачваць нейкія свае асацыяцыі або нейкі момант азарэння? Хіба наогул магчыма расшыфраваць бачанне? Гэта немагчыма. Ніколі ў жыцці ні Далі, ні Шагал, ніводны з мастакоў не задаваўся мэтай расшыфраваць свой свет. Яны проста пісалі карціны або рабілі графічныя малюнкі, а ўжо кожны, калі прыходзіў глядзець, бачыў сваё. У гэтым сэнс. Людзі, якія прыходзяць глядзець або слухаць, у асноўным успрымаюць усё не на прафесійным узроўні, а менавіта на інтуітыўным.

**– Пасля знаёмства з тваімі песнямі ў мяне склалася ўражанне, што ты малюеш. Ці так гэта?**

— Маляваць я пачала не так даўно. Два гады таму вельмі моцна захварэла. Да гэтага ніколі не трымала аловак, толькі ў дзяцінстве. І раптам — парыў. Першае, што я намалявала, — свой сон. Гэта быў ложак з жалезнымі прутамі, з коўдрай, якая спаўзае на падлогу і ператвараецца ў раку, а зверху, перакрываючы ложак, сядзеў вялікі павук з вельмі тонкімі лапамі. Мае дамашнія, калі ўбачылі гэты малюнак, сказалі: "Ну, усё, прыехалі..." (смяецца). І з гэтага моманту ўсё ўвайшло ў норму. Я выказваю сваю думку, свае эмоцыі ў пэўным малюнку. Мне нават сказалі, у мяне ёсць нейкі талент.

**– У тваёй творчасці чутны водгаласы народнай песні, поп, рок і нават духоўнай музыкі. Як ты сама вызначаеш свой стыль?**

— Стыль — гэта вузкія рамкі. Я — чалавек без рамак. Ведаеш, я не люблю жыць у акварыуме, я ў ім задыхаюся. Мы проста ствараем, што ствараецца, і ўсё. Мы ніколі не імкнёмся да вызначэння свайго стылю. Хай гэта робяць іншыя. Стыль душы — гэта самае правільнае азначэнне.

**– Наташа, як я зразумела, ты яшчэ працуеш у студыі. Але ці плануюцца ў цябе гастрольныя паездкі?**

— Апошнія два гады лічу за лепшае працаваць у студыі. Гэта дае пэўную магчымасць эксперыменту — тэхнічнага і эмацыянальнага. А потым нас з Валодзем захапіла цэлая творчая лавіна. Пайшлі вершы, песні. Гэта нельга закідваць — гэта неабходна запісваць. І калі музыкант крыху прамарудзіць, то ўсё набывае адценне прадуманасці. Не, я не кажу, што не трэба прадумваць сваю працу. Але ўсё ж лічу, што музыка, вершы — неадкладныя дзеці. Дзве пласцінкі, якія мы выпусцілі, — не ўсё. Астатняе пакуль на касетах і на прафесійных бабінах. Думаю, калі мы знойдзем мецэната, які б дапамог нам выйсці на добрую заходнюю фірму грамзапісу, то пастараемся выпусціць там яшчэ падвоены альбом і зрабіць якасны канверт для яго. Наогул любы музыкант марыць больш аддаць публіцы ўсяго, што ім зроблена. Неабходна здымаць фільмы пра музыкантаў, паказваць іх, а далей час усё расставіць на свае месцы. Ці планую я што-небудзь? Калі Мінск будзе гасцінным, мы прыедзем да вас восенню. Хочацца паказаць, чым мы займаемся. А далей... Не магу сказаць. Наогул я жыву адным днём. І што прынясе наступны дзень — не ведаю.

**– Наташа, а каго ты лічыш асобай на сцэне, на эстрадзе?**

— Гэта вельмі суб'ектыўнае пытанне. Я лічу, што кожны чалавек — гэта асоба. Спявак ён, мастак ці дворнік...

**– Многія выканаўцы хочуць заняць адно з першых месцаў у хіт-парадах. Якое тваё меркаванне аб нашых сучасных хіт-парадах?**

— Наогул ніякага. Таму што ў мяне вельмі пэўныя адносіны да хіт-парадаў. Я не стаўлю сабе мэту трапіць у які-небудзь хіт-парад. На маю думку — гэта глупства.

**– Скажы, калі ласка, выходзячы на сцэну, ты адчуваеш пачуццё страху, няўпэўненасці, ці ты заўсёды ўпэўнена ў сабе?**

— Я вельмі хвалююся і баюся. Мне здаецца, што выйду на сцэну і... памру. Не вытрымаю гэтых пакут. Гэта яшчэ вельмі мяккае азначэнне. Але потым, калі бачу залу, пачынаюць гучаць першыя акорды — усё! Мной авалодвае музыка. Пайшла аддача, кантакт. Бывае і такое. Выйшаў, а публіка цябе не ведае. Усе сядзяць і глядзяць, як ты апрануты, што ты такое ёсць? Гэта нармальная з'ява.

**– Вывучаюць?**

— Вывучаюць знешне. Ім пакуль нецікава, што ў цябе ўнутры. Затое потым, калі праходзіць адна песня, пачынаецца другая, трэцяя — усё, усё... Усе бар'еры знікаюць. Пачынаецца нешта непаўторнае! І ўсё адбываецца ў адно імгненне. Не за дзве гадзіны, а за 7—8 хвілін.

**– Як крытык Наталля Плаціцына адносіцца да спявачкі Наталлі Плаціцынай?**

— Па-рознаму. Часам добра. Часам бывае прарыў самалюбства, маленькага "я", калі хочацца палюбавацца сабой. Але ў большасці я сабе не падабаюся. Бывае, нават адчуваю нянавісць да сябе. Такое здараецца, калі я свядома ці несвядома каго-небудзь пакрыўдзіла. Я ж небязгрэшны чалавек. Усе мы калі-небудзь, каго-небудзь, у чым-небудзь крыўдзім, недастаткова ўважлівыя да сваіх бацькоў. Ведаеш, неабходна стварыць унутры сябе і побач тую самую гармонію, каб людзям, з якімі маеш зносіны, было добра, цёпла заўсёды. Каб ты не прыгнятаў іх сваёй суперэкспрэсіяй або інтэлектам, або наадварот, глупствам якім-небудзь. Каб ты аддаваў і дапаўняў на духоўным узроўні. Але ніколі не трэба думаць пра тое, што ты аддаў. Аддаў — і дзякуй Богу. На сваіх канцэртах я і спрабую рабіць менавіта гэта. І калі пасля іх хто-небудзь часткова зменіць свае погляды (хай на тысячную долю), ужо добра. Я жадаю, каб наша, скажам гучна, творчасць рабіла людзей міласэрнымі. І калі гэта дадзена мне, Валодзю, іншым музыкантам, значыць мы павінны рабіць тое, што робім.

Алена ГАНЧАРОВА,
г.Санкт-Пецярбург.
Фота з архіва спявачкі.




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№13 (203)

*Спяваем па-беларуску*




## ПАМОЛІМСЯ ЗА БЕЛАРУСЬ...

Музыка У.Макарэвіча. Словы Я.Золака.

1. О, Божа, Усеўладны, о, Божа, Магутны,
Пазбаў Беларусь ад напасці,
Дай волю краіне і нам шматпакутным,
Дай сілу, надзею і шчасце.

2. Цябе, Божа, молім у спеве сугучным:
З'яві сваю добрую волю.
О, Божа, Усеўладны, о, Божа, Магутны,
Пашлі нам шчаслівую долю.

3. Мы, дзеці твае, мы з пакораю просім,
Пазбаў нас ад цяжкае мукі.
Мы лёс Беларусі і наш лёс прыносім
Табе ў справядлівыя рукі.
Амінь.

*З успамінаў*

## НА СПЕКТАКЛІ Ў ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ

Віленская Беларуская Гімназія знаходзілася на вуліцы Вострабрамскай № 9, а я жыў у інтэрнаце Беларускіх настаўніцкіх курсаў на той жа Вострабрамскай вуліцы № 5.

У сьнежні 1925 году ў Вільні насыпала шмат сьнегу.

Гімназія славілася выдатным струнным аркестрам і выдатным драматычным гуртком.

На Калядныя сьвяты мае сябры-гімназісты запрасілі мяне на спектакль. Пасьля лекцыяў на курсах, як я ні стараўся, а ўсё ж на пачатак спектаклю трохі спазьніўся. Усе месцы ў глядзельнай зале былі занятыя і мне давялося стаяць ззаду.

На вельмі прыгожа ўдэкараванай сцэне гуртоўцы паказалі камедыю ў 2-х дзеях Міхася Чарота "Мікітаў лапаць". Артысты выдатна выконвалі свае ролі, за што глядзельнікі ўзнагароджвалі іх гучнымі воплескамі.

У першым радзе важна сядзеў "пан пшодовнік" паліцыі (камендант) у сінім з срэбнымі галунамі мундзіры. Ён, пэўне, прысутнічаў дзеля "парадку", каб, крый Божа, не нарабілі беларусы-гімназісты якое "антыдзяржаўнае крамолы".

Пасьля камедыі на сцэне гімназіяльны хор удала выканаў некалькі беларускіх песьняў, сярод якіх "Не пагаснуць зоркі ў небе" на верш Янкі Купалы і музыку Мікалая Янчука.

За хорам выступіў струнны аркестр. Калі грымнулі велічныя гукі беларускае рэвалюцыйнае песьні "Ад веку мы спалі і нас разбудзілі", я моцна крыкнуў: – "Устаць! Гімн!"

Усе ўсталі. Уздрыгнуў ад нечаканасьці "пан пшодовнік" паліцыі і азірнуўся, але ўстаў і стаяў, пакуль ня сьціхлі апошнія акорды рэвалюцыйнае песьні.

Спектакль драматычнага гуртка Віленскай Беларускай Гімназіі мне вельмі спадабаўся і, хаця мінула больш за палову стагоддзя ад сьнежня 1925-га году, я памятаю аб ім дасюль.

Сяргей Новік-Пяюн,
г.Менск.

*Фестывальныя нюансы*

## МЯЖА

**Мы пісалі ўжо, што адзін з лепшых гуртоў Наваполацкага рок-клуба "Грунвальд" так і не трапіў на фестываль музыкі Маладой Беларусі "Басовішча-92", які праходзіў у Польшчы.
А гурты "Дзіда" і "Ален" прыехалі туды са спазненнем на два дні, стомленыя і знерваваныя...**

●

Мы змірыліся ўжо з тым, што мастацтва не фундуецца. Што мастакі, паэты, музыкі (асабліва авангарднага накірунку) павінны клапаціцца пра сябе самі. Што любы сустрэчны (часцей за ўсё гэта чамусьці бываюць пенсіянеры, дворнікі і работнікі гандлю) можа абазваць цябе "паршивым волосатиком", "тунеядцем", "сволочной обезьяной" (астатнія выразы не прапусціць ніякі рэдактар і будзе мець рацыю). Яшчэ ва ўсіх на памяці суды над паэтамі, якія проста жадалі займацца сваёй справай, і над музыкамі, якія прэтэндавалі атрымліваць хоць нейкія грошы за сваю творчасць... Мы ўжо нічога не патрабуем... толькі не замінайце нам. І мы ўсё-ўсё зробім самі. Але...

...Аўтобус з музыкамі трое сутак прастаяў на Берасцейскай мытні. А міма праходзілі аўтобусы з усіх СНГ-шных куткоў, заваленыя клункамі звычайна да паловы бачнага ікарусаўскага аб'ёму. "Турысты" свабодна ехалі паглядзець, я мяркую, на знакамітыя польскія рынкі. Музыкі стаялі на мяжы. Першую ноч (а прыехалі з раніцы ў сераду) не спалі ўсе — выцягнулі інструменты, наладзілі "сэйшн"... "Прапусцяць!" Кіраўнік групы (ёсць у "замежных" аўтобусах такая пасада) яшчэ весела паглядаў навокал: "Хлопцы, мне абяцалі, я даведаўся"... Яму сапраўды абяцалі... Абяцалі ўсе тры дні...

А зараз пра тое, што абяцалі.

...Жыхарам Брэсцяя і ягоным начальнікам вельмі замінаў жыць даўгі хвост машын і аўтобусаў, якія чакалі сваёй чаргі на рандэву з мытнікамі. Тысячы людзей, адсутнасць элементарных санітарных умоў і сапраўды ператварылі абочыны дарогі да мытні ў сумесь сметніка з прыбіральняй. Разумныя берасцейскія кіраўнікі замест таго, каб рэканструяваць мытню ці хоць паставіць якія "дамкі", знайшлі іншае, адпавядаючае духу часу рашэнне. Яны стварылі фірму "Таможенный сервіс", якая па папярэдніх (за два месяцы пададзеных) заяўках павінна была размяркоўваць прыбываўшыя аўтобусы. Зразумела, гэта рабілася не бясплатна. За некалькі лічбаў (называюцца яны "кодам") кожны аўтобус плаціць ад трох да шасці тысячаў рублёў. "Сервіс" быў створаны каля двух месяцаў да апісваемых падзей. Кіраўніку аўтобуса, на якім ехалі музыкі, паведамілі пра існаванне "кодаў" за тыдзень да паездкі...

...Кантора "Сервіса" знаходзіцца на ціхай берасцейскай вуліцы. Каля яе заўсёды ладны натоўп народу, пераважна жанчыны. Некаторыя стаяць тут па 6—7 дзён. Яны ўжо дакладна ведаюць мясцовыя асаблівасці: ад месца знаходжання бліжэйшых сталоўкі і прыбіральні да настрою начальніка... А таго начальніка суправаджае малады накачаны хлапец гадоў дваццаці — целаахоўнік. У хлопца сапраўды цяжкая праца — адкідваць ад кабінета жанчын, некаторыя з якіх (па-першасці) яшчэ добра важаць... Добра, калі начальнік СОБЛАГОВОЛИТ прыняць 2—3 чалавекі ў дзень... і тыя звычайна выходзяць ні з чым...

А на мытні — усё тая ж карцінка. Бясконцыя чэргі і аміячны пах. Шчаслівыя ўладальнікі кодаў спрабуюць дабіцца праўды ў двух высокіх з іголачкі апранутых хлопцаў — служачых вышэйназванай фірмы. Яны ж пасылаюць усіх... да начальніка. Ну, здзіраючы такія грошы за абяцанку хуткага пераезду мяжы, можна дазволіць сабе пабыць ветлівымі хоць настолькі...

...Так! Дык я пачынала з музыкаў... Музыкаў праз мяжу не пусцілі. Хоць, перагаварыўшы з самімі мытнікамі і апісаўшы ім сваё гаротнае становішча, хлопцы пачулі: "Дадзім зялёную вуліцу, толькі правіцеся праз кардон "Таможенного сервиса"...

Не прарваліся...

І ў суботу, калі ішоў ужо другі дзень фестывалю, музыкі сумна паглядзелі на блізкую Польшчу і павярнулі аўтобус назад.

Была яшчэ спроба прарвацца праз Казлевічы, грузавую мытню...

...У Гародні "Ален" і "Дзіда" вырашылі ўсё ж паспрабаваць яшчэ раз. І, вывернуўшы кішэні, сабралі неяк неабходную суму на квіток у электрычку "Гародня—Беласток". Ім пашчасціла. У іх нават не адабралі інструменты... Некаторым жа гуртам (напрыклад, "Грамадзе" і "Палацу") у гэтым сэнсе пашчасціла менш. Гэтаксама як і групе апаратараў Беларускага тэлебачання, у якіх на мяжы затрымалі ўсю апаратуру...

...Мяне асабіста цікавіць толькі адно — як доўга зможа існаваць мастацтва на мяжы здзеку, ва ўмовах такой непавагі да сябе. Ва ўмовах такіх абраз тых, хто нясе на сабе і без таго часта невыносны крыж паэта, мастака, музыкі...

Не называюцца тут канкрэтныя імёны начальнікаў ці падначаленых... Гэта неістотна. Таму што вінаваты тут не нейкі канкрэтны начальнік. Непавага да творцы — гэта (пакуль?) дзяржаўная палітыка ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, і пакуль яна застанецца такой, аднosіны "винтиков" і "шпунтиков" дзяржаўнае машыны да людзей другога гатунку (паэтаў, мастакоў, музыкаў) не змогуць змяніць ніякія скаргі і абураныя выступы.

...Вы яшчэ здзіўляецеся, што шмат творцаў "кончают трагически"? А я здзіўляюся таму, што яны наогул захаваліся ў гэтым паветры. Што яны яшчэ ідуць. Па лязу. На мяжы.

Х.Ясная.
Фота У.Панады.





## Ліставанне

С.ЦІШУК (г.Ліда): На вялікі жаль, Святлана, мы не друкуем тэкстаў гімнаў, калі да іх яшчэ няма музыкі. Можна было б перадаць твой верш у наш літаратурны выпуск "Крыніцы", але тут яшчэ ёсць над чым працаваць. Нават рыфмы: калі "сцягам—прасцягам", хоць не нова, але ж рыфмуецца, дык "чалавек—завей" — занадта прыблізна, а"грудзях—мая" зусім не вяжацца. Пішы болей і, галоўнае, чытай добрую паэзію.

М.БАЛАЮ (в.Ваўковічы Навагрудскага раёна): Песні "Я запомніў толькі вочы" не бачылі, таму не можам прыняць у гэтым пытанні нейкую пэўную дэцызію. А каб дасланыя музычныя матэрыялы не губляліся, іх трэба адрасаваць непасрэдна ў "Нотны аркуш" і зусім лішняе турбаваць кожны раз галоўнага рэдактара. Гэтак вы маглі і ў "Unesco" сваю песню даслаць, каб яе змясцілі ў "Нотным аркушы".

У.МАКАРЭВІЧУ (в.Кушляны Смаргонскага раёна): Дзякуем за ваш зборнік "Песні пра каханне". Шкада, "Нотны аркуш" — не кніжнае выдавецтва, але паасобку гэтыя творы разам з іншымі вашымі кампазіцыямі будуць змешчаныя на нашых старонках.

А.СЕМЕНЮКУ (г.Слонім): Менскі рок-гурт "Уліс" зусім не спыніў канцэртную дзейнасць. Проста ён выступае там, дзе ёсць добрая арганізацыя канцэртаў: Мюнхен, Варшава, Аўгсбург, Беласток, Талін... А зараз "Уліс" выязджае на выступ у Сопат, куды яго запрасілі на міжнародны фестываль прыняць удзел у канцэрце сусветных зорак.

## *Відэасалон*



ГУЧЫЦЬ У ХРАМЕ СПЕЎ

Фота У. ПАНАДЫ.

## *Гіт-парад*

# ГЭТА КРОЧЫЦЬ КАМОЦКІ

**Бадай, упершыню мы можам папярэдзіць нашых чытачоў, што 10-ы выпуск гіт-парада "ЧЗ-Liberty" выйдзе ў эфір у гэтую нядзелю, 30 жніўня на кароткіх хвалях 25, 31, 41 і 49 метраў у 17.30 і ў 20.30. Там прагучыць уся нашая гарачая беларуская дзесятка і сёе-тое з вашых лістоў, а таксама песні лідэраў усіх дзесяці беларускіх гіт-парадаў з Мюнхену: Данчыка, "Мясцовага часу", "Алена", "Рокіса", "Уліса", "Бонды", "Грунвальда", "Мроі", Вальжыны Цярэшчанка і Алеся Камоцкага.**

●

Дарэчы, Алесь Камоцкі і стаў лідэрам гэтага юбілейнага тура, таму і красуецца тут на здымку. А яго ледзь не дагнаў паводле колькасці пададзеных галасоў Данчык, апошні альбом якога "Мы яшчэ сустрэнемся" (1992) набірае ўсё большую папулярнасць і тут, у Беларусі, і на радзіме выканаўцы, у ЗША.

Сяржук Сокалаў-Воюш хоць і прыдбаў большую колькасць галасоў, чым у мінулы раз, але застаўся на трэцяй пазіцыі. Затое няблага прасоўваецца да Алімпу "Грамада" з песняй Зміцера Сідаровіча "Які ж я беларус?" Вось што пра яе піша Генадзь Грышановіч з Менску: "Відаць, у кожнага — свой шлях да беларускага рока. Яшчэ нядаўна для мяне такой з'явы не існавала. Марыля Радовіч, "Еўропа", "Скорпіёнз" — вось прыкладна маё ранейшае музычнае асяроддзе. А найноўшыя альбомы прывозілі сваякі з Польшчы. І вось неяк прывозяць фірменныя касеты з недзе чутай назвай "Hramada". Слухаю — музыка спадабалася, дый тэксты, здаецца, зразумелыя. Выходзіць, сапраўды беларускія. Толькі потым я з газет даведаўся, што гэта віцебскі ансамбль. Шкада, што наша маладая дзяржава не можа выдаваць сваіх эстрадных зорак, і наш духоўны скарб раскіданы, як і раней, па свеце".



Прыкладна на тую ж самую праблему звяртае ўвагу і настаўнік з Баранавіч Мікола Філончык: "І я, і многія мае калегі найлепшым беларускім гуртам лічым "Уліс". Калі днямі давялося з'ездзіць у Польшчу, дык не пашкадаваў 20 000 злотых (а гэта каля 250 рублёў) і купіў у адной варшаўскай краме другі альбом гурта. "Уліс" варты гэтых грошай, тым больш, што першы альбом да гэтага часу можна купіць у Беларусі за траяк. А яшчэ ў Польшчы купіў за 40 000 кнігу пра беларускі рок "Праз рок-прызму", якую калісьці рэцэнзавалі і "Чырвонка", і "Мастацтва Беларусі", і радыё "Свабода". Цяпер сам змагу прыглядзецца да вартасці спрэчных меркаванняў, выказаных рознымі рэцэнзентамі і, галоўнае, бліжэй пазнаёміцца з тым жа ансамблем "Уліс".

Абнавілася беларуская гіт-дзесятка... старым паўзабытым "Рэем". А вось як гэта здарылася: "Пазнаёміўся я нядаўна, — піша мянчук Сяржук Градэнка, — з хлопцамі з відэастудыі "Берома", аб прадукцыі якой чытаў і ў "Чырвонай змене", і чуў у тэлевыпуску "Беларускія музычныя весткі". Купіў у іх відэакасету "Беларускі рок", якая распачынаецца двума кліпамі гурта "Рэй". Здаецца, гэтая каманда незаслужана прызабытая. Хоць яна знікла ўжо з музычных даляглядаў (для беларускага рока час і цяпер нялёгкі, а што казаць пра ранейшае), але ж след калектыў пакінуў не менш прыкметны за "Бонду" або "Мрою": канцэрты, рэцэнзаваныя ў прэсе, відэакліпы, грамзапісы. Варта не забываць пра гэта".

Такім чынам, з усяго гэтага скрыжавання думак і поглядаў вымалёўваецца табліца № 10 гіт-парада "ЧЗ-Liberty":

1. "Гаспадыня ранішняй зоркі" (муз. і сл. А.Камоцкага). Алесь Камоцкі.
2. "Харашуха" (беларускі фальклор). Данчык.
3. "Крупнік" (муз. і сл. С.Сокалава-Воюша). Сяржук Сокалаў-Воюш.
4. "Які ж я беларус" (муз. і сл. З.Сідаровіча). "Грамада".
5. "У музеі" (П.Піскуноў—М.Скобла). "Тутэйшыя хлопцы".
6. "Бюракрату з Дома ўраду" (муз. і сл. В.Цярэшчанка). Вальжына Цярэшчанка.
7. "Правінцыя" (муз. і сл. В.Шаўкевіча). Віктар Шаўкевіч.
8. "Пляц Францыска" (С.Краўчанка—Ф.Аксёнцаў, С.Краўчанка). "Уліс".
9. "Настальгія" (муз. і сл. С.Хамякова). "Ален".
10. "Панарама-30" (А.Аляксандраў—В.Шніп). "Рэй".

Такім чынам, да сустрэчы праз месяц!

**Вінцук Гуненка.**

**Фота Я.Коктыша.**



## *Фанатэка*




### ДАНЧЫК
### "Равеснікі"
### Дума м'юзык, 1991

Усе тры папярэднія кружэлкі Данчыка ўжо анатаваліся ў "Нотным аркушы". Зусім нядаўна мы атрымалі і чацвёрты альбом, які выйшаў на фірме "Duma Music Inc.", што ў Нью-Джэрсі.

Данчык, які нарадзіўся і вырас у Амерыцы, надзвычай папулярны ў Беларусі. І, здавалася, мы ўсё пра яго ведаем, памятаем кожную песню ягонага рэпертуару. Але гэты альбом прадстаўляе нам крыху нечаканага Данчыка, бо "беларускі салавей" з Нью-Йорка спявае тут украінскія песні. І хоць мы ведаем, што маці Данчыка – беларуска, а бацька – украінец, ён і ў гэтых украінскіх песнях застаецца нашым, сваім. Мабыць, як і ўкраінцы па-сваяцку ўспрымаюць ягоныя беларускія спевы, бо неаднойчы ж запрашалі яго на свае імпрэзы ў Нью-Йорку.

Над запісам альбома Данчык працаваў са сваім ансамблем у ягоным традыцыйным складзе: сам ён, Багдан Андрусышын (вакал), Алесь Кузышын (клавішныя, вакал), Багдан Кузышын (бубны, вакал), Юры Турчын (гітара).

У праграму ўвайшлі дванаццаць песень. Гэта і ўзоры ўкраінскага фальклору ў аранжыроўках Алеся Кузышына ("Там, дзе Ятрань строма ўецца", "Ой на гары белы камень"), і твор сучаснага класіка ўкраінскай папулярнай песні Уладзіміра Івасюка "Я – тваё крыло", і папулярныя песні іншых аўтараў ("Ці ведаеш ты?" Р.Купчынскага, "Мой Кіеў" і "О, вербачка" І.Шамо, "Бярозка" і "Пойдзем, каханая, у лес" С.Казака, "Галічаначка" С.Шпота, "Мы маладыя" І.Нядзільскага, "Пры вогнішчы" Я.Пясецкага). А назву альбому дала песня А.Білаша на вершы А.Підсухі "Равеснікі".

Напэўна нявapта доўга гаварыць пра тое, з якой дбайнасцю падышлі выдаўцы да прапануемай імі прадукцыі: тут і прыгожая вокладка з разваротам, і знакі капірайта кожнай песні з дакладнай інфармацыяй пра час і месца першай публікацыі, і вычарпальныя выхадныя звесткі, і проста выдатная якасць. Наўрад ці хоць адно падобнае выданне прапаноўвала савецкім украінцам "усесаюзная" фірма "Мелодыя".

Мастацкая аздоба альбома належыць Алегу Венгерчуку, які выкарыстоўваў здымкі фірмы "Фромакс Фота". Запіс зроблены ў студыі Electronova Productions, гукарэжысёр Марк Сыдорак.

Прадзюсерамі альбома "Равеснікі" сталі сам Багдан Андрусышын і аранжыроўшчык Алесь Кузышын.

Застаецца толькі пажадаць, каб Данчык выдаў на кружэлцы і свае чароўныя французскія песні, якімі захапіў ён публіку ў Менску.




### "КАЛЧЭ КЛАБ"
### "Абуджэнне ў палаючай хаце"
### Вірджын, 1984

Бедная Англія. Яна захацела разжыцца за кошт сваіх рок-зорак і ўвяла 90-працэнтны падатак на іхнія даходы. У выніку большасць брытанскіх рок-зорак (і менавіта найбольш папулярных, а значыць і прыбытковых) апынулася за мяжой.

Вось і Бой Джордж са сваім "Культурным клубам" не стаў рабіць з сябе дзіўнае выключэнне. Калі вы захочаце напісаць гэтаму брытанскаму спеваку, дык пішыце не ў Лондан, а ў Каліфорнію, дзе знаходзіцца афіцыйны цэнтр усіх фан-клубаў "Калчэ клаб": "The Official Multi-Cultural Club, Dept C-3 P.O. Box 947–Hollywood, California, USA.

Часопіс "Naprzełaj" неяк напісаў пра гэтага спевака: "У чым толькі яго ні падазравалі, але адно газетнае паведамленне здзівіла ўсіх: Бой Джордж жыве сабе ўтульна на Манхэтане ў Нью-Йорку з дзяўчынаю ды не абы з якой. Апошняй выбранніцай "Хлопчыка Жоры" стала пекная фотамадэль, місвідэа (можна яе ўбачыць, дарэчы, у фільме "Move Away") спадарыня Эліс Тэмпель. Так што, калі ў вас былі якія сумненні наконт "Хлопчыка"...

Гэты з'едлівы тон паведамлення, трэба заўважыць, сам па сабе мае падставы. Справа ў тым, што ў сярэдзіне 80-х Бой Джордж паспеў трапіць у гіт-парады "New musical express" і ў якасці спевака, і ў якасці... спявачкі. Дый ягоныя касцюмы красаваліся ў спісах і найлепшых мужчынскіх убранняў, і жаночых. Але чаго не зробіш дзеля таго, каб прывабіць публіку да, зрэшты, вельмі някідкай музычкі а-ля Міша Джэксан.

У рок-гурт "Culture Club", акрамя Боя Джорджа, уваходзяць Мікі Крэйг, Рот Гэй, Джон Мос. Гэта, зразумела, толькі "пацёмкінскі" склад, бо і ў запісе кружэлак, і на канцэртах ім дапамагае цэлы шэраг прафесійных музыкаў і спевакоў.

Дарэчы, апошнім часам Мікі Крэйг сапраўды схіліўся да поўнай "джэксанаманіі", але дапамагаў рабіць кар'еру не Майклу, а ягонаму брату Джэрымайну.

Анатуемая кружэлка запісана ў часіны росквіту "Калчэ клаб" і ўключае наступныя песні: "Небяспечны мужчына", "Няўдалая рэч", "Час злачынства", "Вайсковая песня", "Памылка № 3", "Нырэц", "Медаль-песня", "Не кажы пра гэта", "Манекен", "Прывітанне-бывай".



### "ЛЭД ЗЭПЕЛІН"
### "Хаты святых"
### Атлантык рэкордс, 1973

Гледзячы на фотарэпрадукцыю мастацкай аздобы гэтага выдання, так і ўяўляеш сабе фірменную "атлантыкаўскую" прадукцыю, але кірылічны надпіс у верхнім правым кутку падказвае, што гэта ўсё той жа вынік сумеснага пірацкага бізнесу санкт-пецярбургскай фірмы "Антроп" і Прадзюсерскага цэнтра рок-н-рольных парафіяў Адзінай Евангеліцка-Лютэранскай царквы Расіі. Тым не менш шматлікія фаны старога добрага рока з удзячнасцю і імпэтам прынялі гэты дар нябёсаў, бо ніколі яшчэ ім не даводзілася купляць лонгплэй славутых "цэпелінаў" усяго толькі за 20 рублёў.

Свой пяты альбом "Хаты святых" ансамбль "Лэд Зэпелін" запісваў традыцыйна стабільным складам: Роберт Плант (вакал), Джымі Пэйдж (гітара), Джон Пол Джонс (бас-гітара, клавішныя), Джон Бонэм (бубны).

Большасць кампазіцый, якія ўваходзяць у альбом, напісаныя аўтарскім дуэтам Пэйджа і Планта: "Мы спяваем старыя песні", "The Crunge", "Удалечыні і ў вышыні", "Песня дажджу", "Дні, якія танцуюць". У адным творы ім дапамагаў Джоўнс ("Без літасці"), а яшчэ ў двух далучаецца і Бонэм ("Акіян" і "D'yer mak'er").

Як зазначыў неяк часопіс "Англія", "гэтыя маладыя хлопцы яшчэ і музыкі фенаменальных здольнасцей: кожны выступ для іх азначае тры з паловай гадзіны напружанай, самаадданай музычнай творчасці. Тым не менш, яны часта выпускаюць альбомы, не клапаціўшыся нават пра надрукаванне сваіх імёнаў на вокладцы. У іх мяккая і ясная манера выказвання, адчуваецца інтэлект, але і замкнутасць".

Да пералічаных якасцей можна дадаць і шырыню вакальнага дыяпазону Р. Планта (часам салодкагучнага, а часам пранізлівага, выкрывальнага), і віртуознасць гітарных пасажаў Д. Пэйджа, якія працінаюць да дрыжыкаў, і здольнасць да зухаватых басавых імправізацый Д.П. Джоўнса, і неўтаймоўнасць барабанаў Бонэма, якія пераконваюць, разбіваюць стандартныя ўяўленні, праклінаюць, захапляюць.

"Лэд Зэпелін",– пісаў у сярэдзіне 70-х журналіст брытанскага часопіса "Обзэрвер" Тоні Палмер, – гэта самы жорсткі гук, які можна сустрэць на грамзапісах, прычым нікольки не скажоны, не выкрыўлены".

(Працяг, пачатак у № 34).

Яшчэ гэты Папоў — Федарчук узгадаў шэфа балгарскай разведкі па Заходняй Еўропе. З ім кантакты наладзяцца хутка. Каб толькі не запанікаваў, ідыёт.

— Што рабіць з Паповым, таварыш сакратар?

— Што-небудзь. Пасадзі яго за нейкія крымінальныя справы, за хабар ці нешта такое,— нецярпліва кінуў Андропаў.— Ты лепш падумай, што рабіць з тым палякам.

— З Папам? У гэтай сітуацыі?— амаль жахнуўся Федарчук. Ведаў, пра каго Юры Уладзіміравіч можа сказаць "той паляк". Ведаў пра ягоную амаль паталагічную нянавісць да гэтага зацятага антыкамуніста, вынесенага нейкім неверагодным выпадкам да выканання пажыццёвай функцыі першага праціўніка камунізму. Чалавека, які асмеліўся публічна сказаць, што марыць пра адпраўленне імшы на Чырвоным Пляцы. Гэтага... Вайтылы.

— Мы ў гэтай сітуацыі,— паўтарыў ён.

— У гэтай сітуацыі, але не мы,— сказаў Андропаў і нечакана ўсміхнуўся.— Палякі.


З прычыны бяспекі аўтара выдавец не называе ягонага прозвішча

ЗАБІЦЬ ГЭТАГА ПАЛЯКА

Выдавецтва РОК Corporation, Варшава, 1991

*Варшава, той самы дзень.*
*Паведамленне Польскага Агенцтва Друку:*

24 лістапада г.г. у ваяводскім судзе Вроцлава скончыўся доўгі працэс супраць Уладыслава Фрасынюка, абвінавачанага як кіраўніка нелегальнай арганізацыі пад назвай Рэгіянальны Страйкавы Камітэт. Уладыслаў Фрасынюк выканаў шэраг нязгодных з правам дзеянняў, паміж іншым падштурхоўванне да страйкавых акцыяў. Ваяводскі суд пасля прыспешанага разгляду справы прысудзіў яго да 6 гадоў зняволення.

У той самы дзень з некалькімі рэйсамі ў Лясную Падкову прыехалі каля двух дзесяткаў маладзёнаў. Гэта не быў іх першы візіт у Падкову. Яшчэ перад увядзеннем вайсковага стану бывалі тут на харцэрскіх спатканнях з дзеячамі апазіцыі, а пазней ужо легальна дзеючага незалежнага прафсаюза "Салідарнасць". Такіх, як яны, па цэлым краі былі сотні і тысячы — маладыя людзі, вучні сярэдніх школаў і інстытутаў. Іхнія дзяцінства і юнацтва прайшлі ў забяспечанай, багатай Польшчы, якая, здавалася, з кожным днём даганяла Захад. Такі, ва ўсялякім выпадку, вобраз стварала тагачасная герэкаўская прапаганда, а народная ўлада пільнавала ягонае ўтрыманне. Жнівеньскія падзеі былі для іх шокам. Шокам, бо ўвесь учарашні свет аказаўся ілюзіяй. Час, аднак, не спыніўся і трэба было шукаць сабе месца ў Польшчы, якая пераўтваралася. І вось — цудоўнае лета, цудоўная восень 1980 года. Час, з якім яны звязвалі надзеі на новае, бо іншае і лепшае жыццё. І чарговы шок таго снежаньскага ранку, калі замест нармальнай тэлевізійнай праграмы некалькі разоў было паўторана выступленне Генерала, абвясціўшага канстытуцыйнасць Вайсковай Рады Народнага Ратунку. "Як яны маглі зрабіць гэта са сваім народам?!" — без перапынку паўтаралі сабе тое самае пытанне.

Найперш былі бяссілле і горыч паражэння. Пазней — кароткая дэпрэсія і нарэшце — хвіліна апрытомнення. Не ўсё страчана, а калі нават так, дык усё адно трэба пачынаць барацьбу. Нават калі здавалася б безнадзейнай.

Сёння яны прыехалі ў Падкову на чарговае спатканне. Згодна з правіламі канспірацыі, якім вучыліся з кніжак аб другой сусветнай вайне, уваходзілі ў вілу невялікімі групамі. Не ведалі нават прычыны нечаканага склікання. Сувязныя пастукалі ў іхнія кватэры вечарам мінулага дня. Умоўны сігнал — "свой" — і некалькі словаў, сказаных праз прыадчыненыя дзверы:

— Заўтра ў 9.30 у прафесара ў Падкове...

Кава, гарбата і печыва ўжо стаялі на стале. Дамашні пірог са слівамі — работа жонкі прафесара — быў, як заўсёды, цудоўным. Некалькі дзяўчат, якія прыехалі ўпершыню, ужо збіраліся запісаць рэцэпт такога смакоцця, але іх прыцішыў голас Зыгманта:

— Сябры! Урэшце, не для таго, каб есці, мы прыехалі сюды!

Шум размоў яшчэ не сціх, але Зыгмант гаварыў далей, тонам, які не цярпеў спрэчак...

— З пэўнасцю, не глядзелі ўчарашніх навінаў? А калі не, дык гэта не прычына для гонару. Упэўнены, што таксама не чыталі сённяшняй прэсы. Нядаўна служба бяспекі затрымала Уладка Фрасынюка. Учора наша любімая народная ўлада — здзек у ягоным голасе быў адназначны,— зачыніла яго на шэсць гадоў. Зрабілі чарговую дэманстрацыю моцы. Хочуць нас застрашыць, але дарэмна. Не дамося чырвоным! Да вясны недалёка!

У голасе Зыгманта выразна гучаў рэвалюцыйны пафас. Выключаны за палітычную дзейнасць на пачатку 1980 года студэнт 5 курса варшаўскай Палітэхнікі з гадамі ўсё мацней уключаўся ў дзейнасць апазіцыйных структур. Сябры часта здзіўляліся, адкуль гэтае захапленне палітыкай маладога, ледзьве 25-гадовага хлопца з рабочага квартала Варшавы. Выхоўваўся ў звычайнай сям'і. Бацька — слесар на аўтазаводзе, маці — медычная сястра ў адной з варшаўскіх паліклінік. Два старэйшыя браты пайшлі па слядах бацькоў і пасля сканчэння прафесійнай школы пачалі самі на сябе зарабляць. Малодшы сын Кавальчыкаў вырашыў інакш. У пачатковай школе навука ішла яму добра, а потым — у агульнаадукацыйным ліцэі. Пазней — хвілiннае ваганне: навука ці праца. Доўга ён не раздумваў і падаў дакументы на факультэт механікі варшаўскай Палітэхнікі. Добра здадзеныя ўступныя экзамены і ўрачысты "Гаўдэамус" сталі для яго пачаткам дарогі. Памятаў, як не толькі яму, але маці і бацьку слёзы наварочваліся на вочы. У сям'і быў першым, хто пераступіў парог вышэйшай школы.

— Каб толькі ў цябе, сынку, усё добра было! Але не забывай, дзе твае карані,— казалі яму бацькі ў той кастрычніцкі дзень.

Не забыў, наадварот... За гады студэнцтва ён хутка развіўся. Асабліва пасля 1976 года, калі пачаў звяртаць увагу на розніцу паміж штодзённай рэчаіснасцю і тым, пра што гаварылася на грамадска-палітычных лекцыях. Быў, здаецца, 1977 год, калі сябра-студэнт прапанаваў сустрэчу з групай равеснікаў. Як высветлілася пазней, яны працавалі ў Камітэце Абароны Работнікаў і ў Руху Абароны Правоў Чалавека і Грамадзяніна. Іхнія лозунгі спадабаліся яму. Зацікавіла прапанова супрацоўніцтва. Нелегальная работа ў падполлі, маючая нешта ад смаку забароненага плода, паглынула яго амаль цалкам, што хутка адбілася на адзнаках. Штораз часцей мусіў выпраўляць чарговыя калёквіумы і залікі, зведаў горыч няўдалых іспытаў. Выкладчыкі здагадваліся аб прычынах, па якіх Зыгмант Кавальчык — калісьці ўзорны студэнт першага курса Палітэхнікі — цяпер з цяжкасцямі праходзіў чарговыя этапы навукі. Штораз болей клопату мелі з ім выкладчыкі палітычнай эканоміі сацыялізму і асноў марксісцкай філасофіі. Любіў ставіць цяжкія пытанні і не хаваў крытычнага стаўлення да зместу іхніх лекцыяў. Праблема студэнта-іншадумца Зыгманта Кавальчыка была нават абмеркавана на сходзе факультэцкай партыйнай групы. Калегі-актывісты не хавалі радасці, калі на пачатку 1980 года факультэцкі апазыцыянер № 1 Зыгмант Кавальчык быў выключаны з прычыны невыканання студэнцкіх абавязкаў.

Цяпер, у лістападзе 1982 года, ён належаў да кіраўніцтва ўжо адзінаццаць месяцаў дзеючых у падполлі аддзелаў "Салідарнасці". Сярод іншых яго вызначала незвычайная, канспірацыйная біяграфія. Інтэрнаваны, як і тысячы яму падобных, у першых гадзінах вайсковага стана, праседзеў у "Інтэрнаце" толькі некалькі тыдняў. Ужо праз два месяцы яго з Бялолэнкі, што паблізу Варшавы, перавезлі ў Інстытут Гематалогіі на Хацімскую. Сенсацыйныя ўцёкі з тамтэйшага шпіталя дзеяча "Салідарнасці", які выкарыстаў хвілінную няўвагу пільнуючай яго аховы, доўгі час была ахутана змрокам таямніцы. Было вядома толькі тое, што ўцячы яму дапамог нейкі старэйшы лекар. Служба бяспекі адразу пачала агульнакраёвы пошук. Кавальчык змяніў фрызуру і адпусціў бараду, каб хоць трохі адрозніваццa ад мужчыны, здымак якога, зроблены некалькі месяцаў таму, вісеў у кожным варшаўскім камісарыяце.

— Слухайце,— працягнуў Зыгмант.— Служба бяспекі шалее ўжо некалькі дзён. Мы мусім захоўваць асаблівую асцярожнасць. З патрабаванняў бяспекі касуюцца ўсе кантакты і месцы спатканняў. Учора я здолеў паразумецца з "Пятром", які прыняў нашую праграму дзеянняў.

Паведамленне аб наладжаным кантакце з "Пятром" для многіх было прыемнай нечаканасцю. "Пётр", які ад пачатку належаў да вярхушкі кіраўніцтва "Салідарнасцю", цудам пазбег інтэрніравання і быў адным з тых нешматлікіх, хто не дасць схапіць сябе службе бяспекі. Часта мяняў месцы побыту і сустрэчаў. Неаднаразова эвакуіраваўся некалькі разоў запар на працягу аднае ночы. Усё гэта толькі ўзвышала яго. Быў няўлоўным і дзейнічаў. Ягоны голас гучаў на хвалях нелегальнага радыё "Салідарнасць", ён пісаў артыкулы для падпольнага друку, ягонае прозвішча стаяла пад шматлікімі зваротамі і ўлёткамі.

— Добра, Зыгмант, але цяпер,— да справы... Што канкрэтна мы можам зрабіць, калі чырвоныя штодзень мацней наступаюць нам на пяты?— спытаў задзірыста малады хлопец, які ў віле прафесара быў ужо не першы раз.

— Пасля пакарання Фрасынюка мы павінны правесці ўлёткавую акцыю надзвычайнага маштабу. Мусім паказаць усім, што "Салідарнасць" жыве і працягвае барацьбу! Што калі нават арыштуюць і пакараюць лепшых, мы не схілімся. Сёння яны перамагаюць, але праз нядоўгі час усё можа змяніцца. Людзі павінны зразумець, што чырвоныя трыумфуюць толькі часова. Камуна хоча, каб мы ўпалі ў апатыю, каб скарыліся. Не можам дапусціць таго. Трэба змагацца.

— Зыгмант, аб якім змаганні ты гаворыш?— спытаў нехта з кута пакою.— Ці мы настолькі моцныя? Усё менш людзей згодна ісці на рызыку. Гэта ж сізіфава праца!

— Калі баішся, можаш адысці,— рэзка адказаў той.— Ніхто не будзе мець да цябе прэтэнзій. Але не панікуй, бо ў гэты час на цябе непрыемна глядзець.

— Гэта не паніка, Зыгмант. Я гавару пра сутнасць і сэнс гэтай барацьбы. Як доўга трэба будзе гэта выносіць? Ці ўвогуле ёсць у гэтым нейкі сэнс?

— Паглядзі, што дзеецца вакол нас. Людзям ужо ўсё адно, яны пагаджаюцца з цяперашнім станам рэчаў,— падтрымаў яго нехта збоку.— Зыгмант, ці не ёсць мы Дон Кіхоты?

— Сціхні ўрэшце, Дон Кіхот, а калі табе не падабаецца — з'язджай адсюль,— знерваваўся Зыгмант.— Перад намі важныя праблемы.— Пачаў гаварыць пра масавую ўлёткавую акцыю: з учарашняга вечара некалькі нашых друкарняў без перапынку таўкуць ўлёткі. Будзе іх агулам каля 50 000 штук. Усё гэта трэба пільна і асцярожна разаслаць. Пакункі з улёткамі атрымаеце ў тым самым месцы, што і два тыдні таму. Раскідаць іх трэба будзе ў тых месцах сталіцы, дзе рух наймацнейшы: пры Ратондзе, на скрыжаванні Новага Свята і Святакрыжскай, на пляцы Вільсана... Зрэшты, няма чаго вам тлумачыць, самі ведаеце, што рабіць. Акцыі мусяць быць здзейсненыя прыблізна ў адзін час, напрыклад, у 15.30, у час пік. У цэнтры горада тады тлумна. Ага, яшчэ адно. Калі будзеце выходзіць, хай кожная група возьме ў Паўла спецыяльныя ладункі для раскідання ўлётак выбухам. Толькі асцярожна з імі! Гэта ўсё. Ці ёсць нейкія пытанні?

Даходзіла палова на чацвёртую, калі Зыгмант Кавальчык стаў у чаргу па прадаваныя без талонаў албанскія цыгарэты, якія прывезлі ў кіёск на рагу Новага Свята і Святакрыжскай. Купіў два пачкі, адзін з якіх адразу ж распачаў. Не быў зацятым курыльшчыкам, але ў хвіліны асаблівага хвалявання, як цяпер, любіў супакоіць нікатынавым дымком шалёна грукатаўшае сэрца. Пaглядзеў угару, праз дождж, на дахі бліжэйшых дамоў, нібыта чакаў убачыць там нешта цікавае. Амаль у той самы момант пачуў ціхі выбух, а праз некалькі секунд з вышыні, вірyючы ў паветры нібыта сняжынкі, пачалі падаць тысячы маленькіх аркушыкаў паперы. Моцны лістападаўскі вецер разносіў іх на дзесяткі метраў. Белыя карткі апaдалі на дарогу і ходнікі, частка асела на дахах навакольных дамоў. Некалькі разгубленых кіроўцаў затрымаліся на скрыжаванні, на нейкі час затрымаўшы рух ва ўсіх накірунках. Але ніхто не сігналіў, не было нервовага мігання фарамі. Людзі адчынялі дзверы машын, схіляліся па ўлёткі, што ляжалі на зямлі.

Кавальчык зацягнуўся цыгарэтай. Каб не вылучацца з тлуму, ён, як і большасць людзей, схіліўся за ўлёткай, але рабіў гэта хутчэй з разважлівасці, чым з цікавасці. Добра ведаў змест тэксту, які зусім нядаўна напісаў сам:

"Суайчыннікі! У чарговы раз камуністычная ўлада паказала нам, на што здольны механізм "сацыялістычнай справядлівасці". Учора ваяводскі суд у Вроцлаве пасля прыспешанага разгляду справы прысудзіў Уладыслава Фрасынюка да шасці гадоў зняволення. Гэты прысуд зноў пакрыў ганьбай нашу юстыцыю. Але нават самыя драконаўскія вырокі не спыняць нашай барацьбы за справядлівую справу. Мы будзем працягваць супраціў аж да перамогі. Мы ганарымся цвёрдай, бескампраміснай пазіцыяй Фрасынюка перад ПНР-аўскім судом і абяцаем зрабіць усё, каб атрымалі свабоду ўсе інтэрніраваныя і зняволеныя ў турмах дзеячы "Салідарнасці".

Суайчыннікі! Сёння трыумфуюць яны, але заўтра за намі, Jeszcze Polska nie zginęła!..

Рэгіянальны Выканаўчы Камітэт Мазоўша"

Кавальчык загасіў выкураную напалову цыгарэту і кінуў недапалак у сметнік. Толькі некалькі ўлётак засталося ляжаць на ходніку. Лістападаўскі дождж ішоў усё мацней. Зыгмант падняў прышпілены да плашча каптур і павольна рушыў наперад.

*Масква. Вечар таго самага дня.*
*Прыгарадная рэзідэнцыя Юрыя Андропава.*

Жаўнер паспешна адчыніў жалезную браму і выцягнуўся ў салюце. Чорны ЗІЛ у акружэнні машын аховы панёсся па цёмных ужо вуліцах Масквы з хуткасцю, дазволенай прывілеяванаму транспарту. Прахожыя, як звыкла, на момант прыпыняліся, каб пaглядзець на гэтае відовішча. Яшчэ перад тым, як адчынілася брама Крамля, пасты ДАІ на трасе атрымалі сігнал аб прыпыненні руху. Зялёныя сігналы запаліліся ў час. Юры Уладзіміравіч Андропаў накіраваўся на сваё падмаскоўнае лецішча.

Дом, хаця і меншы за Крэмль, захапляў памерамі. На першым паверсе — пяцідзесяціметровы хол, пакрыты бухарскімі дыванамі, побач — кіназала з більярдам, далей — велічэзная веранда з ашклёным дахам. Паўсюль мармур, дубовы паркет, крышталёвыя жырандолі, зручная імпартовая мэбля, каштоўныя карціны ў счарнелых ад старасці рамах. У бібліятэцы на другім паверсе, каля агню, які гарэў у мармуровым камінку, Генеральнага сакратара разам з Федарчуком чакалі маршал Усцінаў і Анатолій Горбаў, наймаладзейшы сябра Палітбюро.

— Аб панядзелкавай прамове Рэйгана па пытанні ўзбраення ракетамі МХ,— сказаў ім Васілій Федарчук, перадаючы запрашэнне на паслявячэрнюю размову з Генеральным сакратаром на лецішчы.— Яшчэ зарана, каб займаць гэтым час усяго Бюро. Папросту ўступны аналіз — нічога больш.

— Прывітанне, Анатоль, як маецца Людміла Дзмітрыеўна?— Андропаў зычліва ўзяў Горбава пад руку. Горбаў прыкусіў губу, заўважыўшы разумеючыя пагляды Усцінава і Федарчука. Цяпер яму непатрэбная хваля плётак на тэму занадта цесных сяброўскіх сувязяў, якія даўно ўжо звязвалі чароўную жонку Горбава з Андропавым, тады яшчэ шэфам КДБ. Пазнаёміліся колькі год таму ў аддаленым на 1200 кіламетраў ад Масквы санаторыі Стаўрапаля, дзе Горбаў быў сакратаром гарадскога камітэта партыі і куды ўсеўладны шэф КДБ прыязджаў лячыць свае балячкі. Горбаў сам тады сказаў Людміле, што сярод ейных абавязкаў — клопат пра высокіх гасцёў з Масквы. Паміж ёй і Андропавым хутка наладзіўся вельмі сардэчны кантакт. Абодва любілі музыку, чыталі адзін аднаму вершы, а Андропаў, як расказвала Людміла, нават пісаў вершы. Калі аднойчы далікатна звярнуў ейную ўвагу на тое, што іхнія адносіны выклікаюць непатрэбныя плёткі, адказала: "Мяне гэта не хвалюе. Затое найважнейшай рэччу ў жыцці я лічу дапамогу табе ў кар'еры. Кожным магчымым спосабам". З таго дня ніколі больш не закраналі гэтае тэмы.

— Папрасіў бы вас у гэтым вузкім коле гаварыць паміж сабой як сябры. Па-партыйнаму — шчыра і адкрыта.— Андропаў з добра ўданым заклапочаннем паправіў акуляры ў тонкай залатой аправе. — Усе мы разумеем, што ніхто не ёсць вечны. Толькі ў гэтым годзе мы пахавалі ўжо таварыша Суслава і нашага дарагога Леаніда Ільіча. Ды і бедаку Падгорнаму засталіся лічаныя дні, а можа нават і гадзіны. Я і Усцінаў таксама ўжо немаладыя. Што ж, ніхто не прыдумаў лекаў ад старасці. Трэба рыхтаваць змену варты. Але перад тым, як перадаць уладу ў рукі маладых,— тут ён са значэннем зірнуў на Горбава,— разважым над тым, што пакінем ім у спадчыну.

Горбаў звыклым жэстам крануў цёмны знак на шчацэ і ўнутрана падрыхтаваўся да выслухвання маналога, які ўжо ведаў напамяць. Але не мог выказаць непавагі свайму магутнаму апекуну. Ягоны твар выказваў найвялікшую засяроджанасць. "Загаворыць пра тры падставы",— падумаў ён.

— Савецкая ўлада грунтуецца на трох падставах,— працягваў Андропаў, — партыя, армія і дзяржбяспека. Леанід Ільіч разам з Чарненкам давялі партыю да поўнага разлажэння, ведаем гэта і не хаваем. Усё састарэла і праедзена карупцыяй. Адбудова апарату ад пачатку будзе тваёй справай,— ізноў звярнуўся ён да Горбава,— але гэта ў далёкай будучыні. Сёння можам разлічваць толькі на армію і сілы бяспекі. Гэта яны, як і заўсёды ў цяжкі час, мусяць дбаць пра тое, каб новая змена варты не мусіла пачынаць з тушэння пажару. Менавіта пра гэта хачу сёння з вамі пагаварыць. Разумею, што магу разлічваць на вашую здольнасць захоўваць тайны. Змест нашай размовы павінен быць невядомым нават для сяброў Палітбюро. У гісторыі бываюць хвіліны, калі трэба рашыцца на прыняцце ўсяе адказнасці. Дык значыць, магу на вас разлічваць?— паўтарыў ён.

(Працяг будзе).

Пераклаў з польскай
У. ПАНАДА.

*Смачна есці!*

# БАЦВІННЕ ДЫ КАША — ЕЖА НАША

### ХАЛАДНІК ПА-БЕЛАРУСКУ

Спатрэбіцца паўкіло шчаўя, 2 агуркі, 50 грамаў зялёнай цыбулі, 2 яйкі, смятана, соль, цукар, воцат, кроп на смак.

Дробна нарэзанае, перабранае і прамытае шчаўе заліце варам або булёнам і паварыце 5—7 мінут. Разатрыце з соллю зялёную цыбулю, нарэжце агуркі, бялок крутых яек (жаўток разатрыце). Усё гэта заліце астуджаным адварам шчаўя і перамяшайце. Перад падачай на стол дадайце соль, цукар, смятану, кроп.

### ПАЎАГАРОДА Ў ГАРШКУ

Пакладзіце ў гліняны гаршчок усялякай агародніны, якая ёсць: гарошку, маладой морквы, бобу, рэпы або бручкі, крыху сельдэрэю, цыбуліну (або дзве), бульбы не вельмі многа, крыху папярэдне адвараных свежых грыбоў — словам, што ёсць. Буракі не кладзіце. Пасаліць паміж радамі, але няшмат, заліць смятанай. Смятаны трэба даволі шмат. Агародніну неабходна ўкладваць шчыльна і налажыць гаршчок поўны з верхам — маса вельмі асядзе. Усё пакрыць лістом капусты. Паставіць у духоўку, а яшчэ лепш у рускую печ. Падаць у тым жа гаршку, зняўшы верхні ліст капусты і злёгку перамяшаўшы агародніну знізу ўверх.

### СМАЖАНАЯ ЯЧНАЯ КАША

Замачыць на ноч ячныя крупы і варыць потым дзве гадзіны, адкінуць на рэшата. У крупы ўмяшаць лыжку мукі, 4 яйкі, пасаліць на смак. На патэльні распусціць масла і абсмажыць кашу з абодвух бакоў, каб добра падрумянілася.

Падаць з якой-небудзь салатай, асабліва добра з чырвонай капусты.

### РЫСАВЫЯ КРАКЕТЫ

Узяць добра прамыты рыс і паставіць варыць у малой колькасці вады без солі; каб лепш разварыўся, падліваць пакрыху халоднага малака і мяшаць. Калі зусім разварыцца і вадкасці не будзе бачна, пакласці ў місу, крыху астудзіць і старанна размяшаць лыжкай, дадаўшы лыжку сметанковага масла, па аднаму некалькі жаўткоў і цёртага сыру, каб утварылася аднародная маса. Пад канец асцярожна дадаць узбітыя ў пену 2—3 бялкі. Тут жа браць дэсертнай лыжкай, абваляць у сухарах, рабіць кракеты якой захочацца формы, аднолькавай велічыні, смажыць у каструлі ў гарачым масле, вымаць на прамакальную паперу. Да кракетаў падаць якую-небудзь зялёную салату.

### ПРАСЯННІК

Дзве шклянкі проса два разы абліць варам і два разы зліць. Ад гэтага проса страціць гаркаваты смак, які многім не падабаецца. У каструлю наліць шклянкі чатыры малака, ускіпяціць, усыпаць проса, пасаліць і даць павольна кіпець, не перамешваючы. Калі атрымаецца густая размазня і проса зусім стане мяккім, 2 жаўткі перамяшаць з 2—3 лыжкамі распушчанага масла, уліць у проса і паставіць у духоўку. Калі запячэцца, пакласці на блюда. Падаць з зялёнай салатай.

### БЛІНЧАТЫ ПІРОГ З МАННАЙ КАШАЙ

Ускіпяціць ваду з кавалкам масла, усыпаць манныя крупы і, памешваючы, варыць, пакуль не загусцее. Добра парэзаць крутыя яйкі і ўмяшаць у гатовую кашу. Можна дадаць крыху свежых грыбоў, папярэдне прыпусціўшы іх у сметанковым масле і дробна парэзаць.

Спячы блінчыкі з мукі з яйкам і малаком. Вялікую каструлю з прамымі бакамі абмазаць маслам і абсыпаць сухарамі. Блінчыкі пакласці тонкім пластом на дно і бакі, адзін на другі, бакі адгарнуць наверх. Палажыць рад кашы, рад блінчыкаў, яшчэ кашы і так даверху. Накрыць блінчыкамі і адгарнутымі бакамі, паставіць у духоўку на чвэрць гадзіны, каб спяклося.

*Парады хатняму майстру*

# МАЛЕНЬКІЯ ХІТРЫКІ

- Да пластыкавых абцасаў не так проста прыбіць набойкі: цвікі ідуць з вялікай цяжкасцю. Паспрабуйце прасвідраваць у абцасах адтуліны, забіць у іх драўляныя коркі, а да іх ужо прыбіваць набойкі. Трымаюцца яны добра.
- На белых аўтамабільных нумарных знаках новага ўзору, якія выраблены са сталі, хутка становіцца бачнай іржа, нашмат хутчэй, чым на старых з чорным фонам. Працягнуць тэрмін службы нумарнога знака можна проста: пакрыць, пакуль ён яшчэ свежы, слоем бясколернага водаўстойлівага лаку.
- Здараецца, пры рэзцы шкла лінейка злізгаціць і шкларэз чэрціць няроўную лінію. З гэтай непрыемнасцю будзе скончана, як толькі вы прыклеіце да лінейкі некалькі кавалачкаў тонкай гумы.
- Калі тонкі кавалак мыла крыху размачыць і ўціснуць у пемзу, дык атрымаецца гібрыд пемзы і мыла, якім вельмі зручна мыцца.
- Прышыць гузікі трывала да спецвопраткі альбо спартыўнага адзення можна з дапамогай рыбалоўнай лёскі дыяметрам 0,4 мм. Для шыцця трэба падабраць іголку з шырокім вушкам. Адлегласць ад гузіка да тканіны павінна быць не малой і не вялікай – сярэдняй. Тады прарэшак доўга не будзе зношвацца.
- Для надання мастацкаму пэндзлю патрэбнай формы рэкамендуецца падпраўляць яго электрабрытвай.
- Не бяда, калі пры рамонце электраправодкі пад рукой не апынулася ізаляцыйнай стужкі. Абматайце дрот стужкай з поліэтыленавай плёнкі, распраўце яе агнём запалкі і разагрэтай масай заізалюйце злучэнне .
- Каб перасунуць цяжкі прадмет, напрыклад, шафу з усімі рэчамі, у якасці дамкрата можна скарыстоўваць надзіманую падушку, аўтамабільную камеру альбо гумавую грэлку з перахаднікам для шланга.
- Калі ў чайнік пакласці вартаўнік для малака, то сваім брынканнем ён абвесціць аб тым, што вада закіпела.
- Калі глебу пад садовым домам закрыць пластом рубероіду, гэта значна паменшыць сырасць у падполе. Драўляныя канструкцыі будуць служыць больш, сухім зробіцца паветра ў памяшканнях.
- Калі ліпкую стужку або вільготную газету наклеіць уздоўж баразны, нанесенай на шкле шкларэзам, то пры пастукванні трэшчына пойдзе якраз па патрэбнай лініі.
- Каб пры маляванні алеем атрымаць матавую паверхню, трэба ў фарбу дадаць раствор 40-працэнтнага гаспадарчага мыла з разліку 1 кавалак на 3 літры фарбы. Мыла стругаюць стружкамі, заліваюць вадой (каб яна злёгку перакрывала) і награюць, пакуль яно не растварыцца. Потым, памешваючы, дадаюць у фарбу.
- Збітыя дабяла чаравікі юных футбалістаў крэмам не замажаш: светлыя плямы ўсё роўна прасвечваюць. Скарыстайце васковыя крэйды адпаведнага колеру. Спачатку абутак зафарбоўваецца крэйдай, а потым ужо чысціцца крэмам.
- Калі засцежка "маланка" ўвесь час разыходзіцца, з ёй можна справіцца пра дапамозе простага прыёму. Да язычка замка прывязваецца пятля з суравой ніткі, калі "маланку" зашпільваюць, пятлю накідваюць на гузік, прышыты да пояса штаноў або спадніцы.
- Каб ачысціць з вазы для кветак белыя палосы, дадайце ў ваду для мыцця крыху воцату.
- Паспрабуйце адмочваць зацвярдзелыя пэндзлі ў растваральніку, завязаўшы іх у кавалак поліэтыленавай плёнкі. Такі спосаб добры тым, што патрабуе малой колькасці растваральніку, які, да таго ж, практычна не выпарваецца.
- Каб каністра ў багажніку аўтамабіля не грукатала, не абдзірала фарбу, раім нацягнуць на яе два гумавыя колы. Колы можна выразаць са старой аўтамабільнай камеры вялікіх памераў або скleіць з гумавай стужкі.
- Хлеб будзе лепш захоўвацца ў металічнай хлебніцы, калі на яе дно пакласці драўляную дошчачку. Яшчэ больш ён захаваецца ў хлебніцы, зробленай цалкам з дрэва.
- Калі кішэнны мікракалькулятар запячатаць у чахол з поліэтыленавай плёнкі, то гэта перасцеражэ яго ад пылу, драпін, выпадковага пранікнення тушы або вады. Лічбы на табло і клавішах праз плёнку бачны добра, а для кнопкі ўключэння можна зрабіць разрэз.
- Драбненне арэхаў для прыгатавання страў заўсёды ўяўляе праблему для гаспадыні. Ступка, у якой іх звычайна таўкуць, не вельмі падыходзіць для гэтай мэты. Нашмат зручней карыстацца дзвюма таркамі, якія размяшчаюцца гарызантальна. На ніжнюю кладуць ядры, а верхняй іх труць. Справа вельмі паскараецца.
- Для зручнасці працы ў цяжкадаступных месцах аўтамабіля рэкамендуецца маленькая лямпачка з рэфлектарам, якая замацоўваецца прама на запясці рукі. Батарэю можна змясціць у кішэні або на поясе.
- Рэйсфедэр – зручны дазатар клею пры мантажы аматарскага фільма. Апусціце яго ў клей і прачарціце лінію па кругу. Клей раўнамерна трапіць у шчыліну паміж плёнкай, атрымаецца надзейнае і акуратнае злучэнне.

*Спрытныя пруткі*

# ТАПАЧКІ (памер 36—37)




Для працы спатрэбіцца 80—100 г. воўны. Таўшчыня ніткі павінна адпавядаць пруткам № 4.

Набярыце на пруткі 28 вочак (15 см) з баваўнянай ніткі і звяжыце 1—2 рады вонкавымі вочкамі. Абарвіце дапаможную нітку і адзначце з двух бакоў вязання 10-я вочкі. Далей вяжыце шарсцяной ніткай усе рады вонкавымі вочкамі. Адзначаныя вочкі па вывараце палатна вывязвайце вывbabратнымі вочкамі, а па знешнім баку — вонкавымі, гэта раздзяляльныя лініі паміж падэшвай і бакавымі краямі тапачак. Звязаўшы 10 см, дадайце па 1 вочку каля раздзяляльных ліній з боку падэшвы і вяжыце яшчэ 9—11 см. Цяпер перабудуйце ўзор хустачнага вязання на рызынку 1 х 1, звязаўшы 4 см, абарвіце нітку, уцягніце ў іголку, прашыйце вочкі апошняга рада, моцна сцягніце і далей гэтай жа ніткай сшыйце трэцюю частку палатна, захопліваючы і пругавыя. Цяпер здыміце рады з баваўнянай ніткі (шарсцяныя вочкі застануцца адкрытымі). Сярэднія 8 вочак прашыйце і моцна сцягніце, а крайнія 10 сшыйце трыкатажным швом "вочка ў вочка".

